
Fot. Hanna Kondratiuk



Operze i Filharmonii Podlaskiej odbył się festiwal poświęcony kompozytorowi. W gmachu filharmonii jest też kącik dedykowany pamięci Jana Tarasiewicza, a w nim część eksponatów, które Hanna, w dowód zaufania do środowiska białoruskiego, otrzymała od Anatoliusza Czerepińskiego. Przekazała je Białoruskiemu Towarzystwu Historycznemu. W ten sposób osobiste rzeczy kompozytora, w tym pianino, znalazły się w podlaskiej filharmonii. – Najważniejsze, że ocalały nuty – mówi Hanna. Pierwszy zapis wybranych utworów fortepianowych wydało Białoruskie Towarzystwo Historyczne.

Podczas sokólskiego spotkania nuty wzbudziły zainteresowanie Zbigniewa Dębko, dyrektora Sokólskiego Ośrodka Kultury i jego żony Ewy. Oboje są muzykami, a ich profesorem był, występujący w filmie, Zbigniew Popielski – uczeń Jana Tarasiewicza. Ośrodek, który prowadzi Zbigniew Dębko, znany jest m.in. ze Spotkań Rodzin Muzykujących. – Tutaj żywa jest tradycja muzyczna. Sokólszczyzna to prawdziwa kopalnia talentów. Taki jest ten region – mówią.

W powiecie sokólskim, w gminie Kuźnica, położona jest wieś Mieleszkowce Pawłowickie. Stąd pochodzi Szymon Borys – młody pianista, dyrygent, kompozytor i teoretyk muzyki. Jest absolwentem Prywatnej Szkoły Muzycznej I stopnia w Sokółce oraz Ogólnokształcącej Szkoły Muzycznej II stopnia w Białymstoku. Studiuje na trzecim roku dyrygentury symfoniczno-operowej w Akademii Muzycznej w Katowicach. Od ubiegłego roku prowadzi badania nad muzyką Jana Tarasiewicza. Mistrzowsko zagrał na fortepianie Valse Banale, utwór dedykowany przez kompozytora mieszkańcom Sokółki. Publiczność kina Sokół usłyszała pierwsze publiczne wykonanie tego niebanalnego walca. Chwilę później do Szymona Borysa dołączyła Aleksandra Abramowicz, młodziutka skrzypaczka, która od szóstego roku życia uczy się gry na skrzypcach w Państwowej Szkole Muzycznej w Białymstoku. Zagrali razem „Smutnuju piesieńku”, w której słychać echa białoruskich pieśni ludowych. Możliwości wiolonczeli pięknie pokazała Magdalena Abramowicz, wiolonczelistka, studentka I roku studiów magisterskich w Akademii Muzycznej w Katowicach. Mamą Oli i Magdy jest Maria Abramowicz, nauczycielka, prowadząca w szkole w Gródku zespół muzyczny Kazka. Młodzi muzycy lekko, z niezwykłą sprawnością, wykonali niełatwe utwory kompozytora. Wśród nich była serenada, wpisująca się w nurt rosyjskich kompozycji, zapoczątkowany przez Piotra Czajkowskiego a kontynuowany w XX wieku przez Sergiusza Rachmaninowa. Był też walc Fryderyka Chopina, jednego z najbardziej cenionych przez Tarasiewicza kompozytorów. Z dużym wzruszeniem przyjęto preludium na fortepian dedykowane Apoloniuszowi von Vitte, aktorowi teatru Stanisławskiego w Moskwie. Apoloniusz von Vitte przez wiele lat korespondował z kompozytorem, odwiedził go nawet w Szyndzielu. Szymon Borys wykonał utwór bezpośrednio z fotokopii rękopisu Jana Tarasiewicza.

– Przeczytałem książkę Hanny Kondratiuk i w ten sposób dowiedziałem się, że istniał taki kompozytor jak Jan Tarasiewicz. Najpierw korespondowałem z panią Kondratiuk, później skontaktowałem się z archiwum w Mińsku. Cieszę się, że udało się pozyskać nuty, tym bardziej że w Polsce znajduje się niewiele utworów kompozytora. Dzięki temu udało się przygotować koncert – powiedział Szymon Borys. Oli Abramowicz najbardziej podoba się to, że melodia wyraża emocje. – Jakby cały czas za czymś tęsknił – dodaje jej starsza siostra. – Jak grałam, to emocje wydawały mi się niejednoznaczne. Melodia jakby przechodziła z jednego stanu w drugi. Muzyka faluje. Bardzo kojarzy mi się to z sokólskimi wzgórzami. Utwory Jana Tarasiewicza wpisują się w te tereny i w emocjonalność, która na Podlasiu jest wyjątkowa. U nas jest coś charakterystycznego. Coś, co dotyka inaczej. Ta muzyka jest taka duchowa – mówi Magda Abramowicz. – Właśnie dlatego zajęliśmy się nią. Ktoś musiał to zrobić – dodaje Szymon Borys. Widać, że młodym muzykom naprawdę podoba się twórczość pochodzącego z tych samych stron kompozytora. Szymon Borys, zapytany o wpływ białoruskich pieśni ludowych na twórczość Jana Tarasiewicza, odpowiada: – Nie możemy stwierdzić po latach, czy kompozytor słyszał te melodie na rynku w Sokółce, czy też kiedy wracał do swojego majątku przez Bogusze. Etnomuzykolodzy mogą jednak potwierdzić, że jest to folklor tej ziemi. Na zakończenie opowiada o niedokończonym przez kompozytora koncercie na fortepian i orkiestrę. Szymon zajął się jego instrumentacją. – Mam nadzieję, że i ten utwór uda się tu kiedyś wykonać – mówi. – To jest dopiero początek drogi – dodaje.

**Diana Nachiło**

# Беларускамоўная філуменія

*Сяргей Чыгрын*

## Філуменія – гэта…

Тыя, чыё маленства прайшло ў 1940-х—1970-х гадах, добра памятаюць той час, калі амаль кожны з іх збіраў этыкеткі ад запалкавых карабкоў. Асабліва вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі. Некаторыя захоўвалі цэлыя карабкі з рознымі этыкеткамі, іншыя этыкеткі зрывалі з карабкоў і наклейвалі ў альбомы. Захоўвалі ўсе свае калекцыі ў розных кардонных упакоўках ці ў шуфлядках сталоў. Часта мяняліся этыкеткамі паміж сябрамі і зайздросцілі таму, у каго была лепшая калекцыя або рэдкая этыкетка. Нават прыносілі ў школу, дзе рабілі абмен. З узростам гэтая прага гублялася, а калекцыі іх бацькі выкідвалі на сметнік ці палілі ў печках. Праўда, не ўсе спакойна развіталіся са сваімі калекцыямі запалак. Некаторыя людзі ўсё жыццё калекцыяніруюць запалкі ці этыкеткі ад запалак і маюць вялікія калекцыі. Тыя, хто займаецца калекцыяніраваннем запалкавых этыкетак ці карабкоў ад запалак называюць філуменістамі, а калекцыяніраванне этыкетак з карабкоў ад запалак, запалкавых карабкоў, буклетаў (кніжак-запалак) і іншых прадметаў, звязаных з запалкамі, называецца філуменіяй (ад грэцкага „phileo" – люблю і лацінскага „lumen" – агонь ці святло)

Сёння філуменія не з'яўляецца распаўсюджаным хобі, як, напрыклад, калекцыяніраванне манет, паштовых марак, паштовак, самавараў, прасаў, але аматары гэтай навукі працягваюць развіваць сваю калекцыю. Хачу адзначыць, што кошт на запалкавыя этыкеткі і запалкі XIX стагоддзя нічуць не ніжэйшы чым, напрыклад, на банкноты ці манеты гэтага перыяду. На аўкцыёнах сёння можна убачыць, што калекцыі этыкетак і запалак амаль заўсёды знаходзяць сваіх пакупнікоў, бо гэта таксама антыкварыят, які расце ў цане.

Аднак я сёння хачу распавесці не пра гэта, а пра беларускамоўную філуменію. Менавіта пра беларускамоўныя этыкеткі на запалкавых карабках. Тым больш, што вытворчасць запалак на тэрыторыі Беларусі мае даўнюю гісторыю. А першы прыватныя запалкавыя фабрыкі на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіліся ў канцы другой паловы XIX стагоддзя. Іншая справа, што этыкеткі на запалкавых карабках тады не былі напісаны на беларускай мове. І толькі ў 1920-х—1930-х гадах з'явіліся першыя беларускамоўныя запалкі.

## Запалкі з Барысава

У 1901 годзе ў Новабарысаве была заснавана фабрыка „Бярэзіна" Ісідорам Берманам. Яе першая прадукцыя пайшла на экспарт у 1906 годзе. Усе этыкеткі на запалкавых карабках друкаваліся на рускай і польскай мовах, а таксама на агельскай і персідскай. Восенню 1917 года ў Барысаўскі раён прыйшла савецкая ўлада і „Бярэзіна" была нацыяналізавана. Потым зноў мянялася ўлада, але запалкавая фабрыка працавала. У 1920 годзе фабрыка ў Новабарысаве атрымала новую назву „Чырвоная Бярэзіна". У гэты час этыкеткі на запалках пачалі з'яўляцца і на беларускай мове. З аднаго боку запалак быў тэкст па-беларуску, з другога – па-руску. Напрыклад, на этыкетках Новабарысаўскай фабрыкі ў 1924-1926 гадах было напісана: „Дзяржаўная серніковая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна". БССР ВСНХ. Новабарысаў Беларусь". І намаляваны герб БССР.

У 1926-1929 гадах „Чырвоная Бярэзіна" актыўна пачала выпускаць запалкі з беларускамоўнымі этыкеткамі. На адным баку запалак, напрыклад, было напісана: „Бел.Дзярж.Серніковы трэст. Фабрыка сернічак „Чырвоная Бярэзіна". ВСНГ. Новабарысаў, БССР. Цана 1 1/2 к.". І быў намаляваны караблік, а з іншага боку – зорачкі і чорна-белыя квадрацікі.

Са снежня 1929 года ў Новабарысаве пачала працаваць новая пабудаваная фабрыка, якую назвалі „Пралетарская Перамога". Фабрыка выпускала запалкі на рускай і беларускай мовах. Але большасць з іх былі на роднай мове. З 1930 года Беларускае запалкавае аб'яднанне ўпершыню на этыкетках Новабарысаў пачало пісаць праз злучок: Н.-Барысаў і Нова-Барысаў.

З 20 па 29 красавіка 1932 года адбыўся IX з'езд прафсаюзаў СССР. Да гэтай падзеі фабрыка «Пралетарская Перамога" выпусціла на беларускай мове дзве памятныя этыкеткі. На адной з іх было напісана: „Ударны выпуск імя 9-га Зьезду Прафсаюзаў. Тэхніка ў пэрыяд рэканструкцыі вырашае ўсё. Ф-ка запалак „Пралет.Перамога" г. Н.-Барысаў. БССР. Цана 2 кап.". На другой змешчаны такі тэкст: „Ударны выпуск імя 9-га Зьезду Прафсаюзаў. СССР. Ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту. Ф-ка запалак „Пралет.Перамога" г. Н.-Барысаў. БССР. Цана 2 кап.".

Запалкавая фабрыка „Пралетарская Перамога" ў 1930-я гады шмат выпускала запалак з беларускамоўнымі этыкеткамі. Але ўсе яны былі

напісаны ў бальшавіцкім духу. Напрыклад, на запалках у 1933-1934 гадах было напісана так: „Дэлегату Усесаюзнага злёту ўдарнікаў пільшчыкаў, бракераў і пілаточаў – ад калектыва рабочых ІТР Бярэзінскага камбіната – бальшэвіцкае прывітанне. БССР, Нова-Барысаў”.

У 1934 годзе быў забіты сакратар Ленінградскага абкама ВКП (б) Сяргей Кіраў. Пачаліся масавыя рэпрэсіі партыйных і гаспадарчых кіраўнікоў. Гэтая кампанія ў СССР называлася „яжоўшчына”, па прозвішчу наркама ўнутраных спраў Яжова. Адначасова, сотні заводаў і фабрыкаў перайменавалі ў гонар Кірава. Сюды патрапіла і „Пралетарская Перамога”, якую перайменавалі ў 1935 годзе ў „Фабрыку імя таварыша Кірава”. Фабрыка таварыша Кірава таксама старалася выпускаць запалкі на беларускай мове з рознымі савецкімі афармленнямі і лозунгамі. Хутка з запалак знікла слова „таварыш” і фабрыка пачала называцца проста імя Кірава.

У 1949 годзе выйшлі па-беларуску запалкі, прысвечаныя 30-годдзю БССР. У 1950 годзе фабрыка імя Кірава выпусціла запалкі з малюнкам на якім адлюстраваны быў танец „Лявоніха” і шэраг іншых.

Пасля 1953 года запалкавая фабрыка імя Кірава (потым гэта будзе фанерна-запалкавы камбінат, цяпер – ААТ „Барысаўдрэў”) пачала рэдка звяртацца да беларускай мовы. Але ў 1958 годзе фанерна-запалкавы камбінат у Барысаве выпусціў серыю беларускамоўных этыкетак, прысвечаных 40-годдзю Савецкай Беларусі. У 1964 годзе выйшла серыя беларускамоўных прыгожых этыкетак, прысвечаных 20-годдзю вызвалення Віцебска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама серыя беларускіх запалак з нагоды 20-годдзя вызвалення Беларусі.

Беларускамоўных этыкетак заслужыў у 1961 годзе і Чырвоны Крыж БССР – выйшла серыя запалак з нагоды 40-годдзя таварыства Чырвонага Крыжа БССР, а таксама заклікі, каб людзі ўступалі ў члены таварыства Чырвонага Крыжа.

У 1961 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў некалькі відаў запалак, якія рэкламавалі творы беларускіх літаратараў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Янкі Брыля, Зінаіды Бандарынай, Аляксея Кулакоўскага, Віталя Вольскага, Яна Скрыгана і іншых пісьменнікаў і заклікалі іх купляць праз кнігу-поштай. Добрая была ідэя.

Рэкламаваў Барысаўскі камбінат у 1961 годзе і беларускія газеты „Звязда” і „Чырвоную змену”. На розных этыкетках беларусы маглі прачытаць такія беларускія тэксты: „Выпісвайце „Звязду”; „Чытайце „Звязду”, пішыце ў яе”; „Чытайце „Чырвоную змену”; „Выпісвайце газету „Чырвоная змена”. Да 45-годдзя „Чырвонай змены” камбінат таксама выпусціў запалкі з беларускамоўнай этыкеткай „Чырвонай змене” – 45 год. Выпісвайце і чытайце сваю камсамольскую газету”.

У 1970-х –1990-х гадах вельмі рэдка з барысаўскага прадпрыемства трапляла беларускае слова на этыкеткі карабкоў запалак. А цяпер ужо на працягу амаль 20 гадоў мовы роднай на прадукцыі ААТ „Барысаўдрэў” амаль не знойдзеш. Некалькі каляровых запалак са словамі „Квітней Беларусь!” выйшла з варштату камбіната пару гадоў таму. Але з іншых бакоў гэтых карабкоў тэкст пададзены па-руску.

## Запалкі з Пінска

Мне не трапілі ў рукі запалкі з беларускамоўнымі этыкеткамі з пінскіх фабрык 1900-х—1930-х гадоў. Хаця першая запалкавая фабрыка ў Пінску „Вулкан” была заснавана Луі Гершманам у 1892 годзе. Потым яна згарэла. А тое, што ад яе засталося, выкупіў яўрэй Іосіф Гальперн. Ён аднавіў фабрыку пад назвай „Прагрэс-Вулкан”. Але гэтыя прадпрыемствы не выпусцілі ніводнага карабка запалак на беларускай мове.

Пасля 1920 года Пінск знаходзіўся пад Польшчай. І пра беларускую мову на запалках і думаць не маглі. У верасні 1939 года ў Пінск прыйшла савецкая ўлада. І запалкавая фабрыка атрымала назву імя 20 верасня ў гонар уваходу войск Чырвонай Арміі ў Пінск. Але хутка фабрыка стала называцца інакш, а менавіта: Пінская запалкавая фабрыка імя 17 верасня.

Да пачатку Другой сусветнай вайны фабрыка імя 17 верасня выпусціла толькі адзін від запалак з беларускамоўнай этыкеткай. І гэта этыкетка была прысвечана Сталіну – „Слава Сталіну”. Калі б можна было друкаваць партрэты „вождя”, то, магчыма, на этыкетцы быў бы партрэт Сталіна, але гэтага ў той час рабіць катэгарычна забаранялася.

У гады Другой сусветнай вайны запалкавая фабрыка не спыняла сваёй працы і выпускала прадукцыю пад кантролем нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Скажу яшчэ, што за немцамі беларуская мова была роўнай з нямецкай. Таму і запалкі ў 1941-1944 гадах выпускаліся на нямецкай і беларускай мовах. Найбольш было выпушчана запалак з выяваю нямецкага салдата ў касцы. Зверху над малюнкам на нямецкай мове было напісана: „Streichholzfobrik in Pinsk”, а ўнізе пад малюнкам быў тэкст па-беларуску: „Фабрыка сярнічкоў у Пінску”. І гэтымі запалкамі карысталіся ўсе: і партызаны, і немцы, і сяляне ў вёсках, і падпольшчыкі разам з немцамі прыкурвалі свае папяросы, і ў храмах ад іх запальвалі свечкі…

Пасля вайны фабрыка 17 верасня выпусціла некалькі запалак з беларускамоўнымі этыкеткамі. На іх быў надрукаваны розны невялікі тэкст і малюнкі: то герб БССР, то юнак, які бяжыць, то рабочы і сялянка з сярпом і молатам, а на адной з этыкетак быў змешчаны тэкст „Наша марка” і намаляваны зубр. Усе гэтыя этыкеткі асаблівай цікавасці для філуменістаў не ўяў-

























ляюць, хіба толькі тым, што яны былі выпушчаныя па-беларуску і ў 1940-х—1950-х гадах.

Арыгінальная этыкетка на беларускай мове з’явілася ў 1947-1953 гадах. Яна была прысвечана каларадскаму жуку. На этыкетках быў намаляваны каларадскі жук і напісаны тэкст: „Выяўляйце шкодніка бульбы – каларадскага жука, паведамляйце аграному”.

У 1958 годзе Пінская запалкавая фабрыка выпусціла серыю беларускамоўных этыкетак на запалках, прысвечаных 40-годдзю Савецкай Беларусі. На ўсіх іх напісаны альбо лічба 40, альбо стаяць гады: 1919-1959 і розны невялікі тэкст.

У Мінску ў 1967 годзе адбывалася трэцяя зімовая спартакіяда прафсаюзаў БССР. Да гэтай нагоды ўжо Пінскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў тры беларускамоўныя этыкеткі.

Да 80-годдзя газеты „Звязда” прадпрыемства „Пінскдрэў” падаравала этыкетку з малюнкам звязды калядоўшчыкаў і з тэкстам: „Беларускай газеце Звязда – 80”. Выпускаліся ў Пінску яшчэ некалькі запалак з беларускамоўнымі этыкеткамі, але іх было няшмат. Цяпер холдынгавая кампанія „Пінскдрэў” беларускамоўных запалак амаль не выпускае.

## Запалкі з Рэчыцы

Запалкавую фабрыку „Днепр” у Рэчыцы арганізавалі браты Шышкіны ў 1898 годзе. У 1908 годзе гаспадаром фабрыкі былі С.Цімафееў і яго сыны.

У 1919 годзе запалкавую фабрыку „Днепр” нацыяналізавалі. А ў кастрычніку 1930 года яе перайменавалі ў фабрыку „Х гадоў Кастрычніка”. Падчас Другой сусветнай вайны запалкавую фабрыку з Рычыцы эвакуіравалі ў Барнаул (Расія). Усяго да 1941 года на гэтай фабрыцы было выпушчана 65 этыкетак, сярод якіх і шмат беларускамоўных. Цяпер у Рэчыцы запалак не выпускаюць.

Этыкеткі запалкавай фабрыкі „Днепр” ці „Дняпро” друкаваліся ў асноўным на беларускай мове. Праўда, на этыкетках трапляліся і рускія словы. Напрыклад, на адной этыкетцы напісана: „Беларускі сернікавы трэст. Гомель. СССР. Ультиматум. Фабрыка „Днепр”. Рэчыца. Цана 1 ½ кап.”. На іншай этыкетцы слова Речыца, пісалася праз літару Е. А калі фабрыку перайменавалі ў фабрыку „Х гадоў Кастрычніка”, то пісалі і „Х Октябр”, і „Х Окцябр”, і „Х Кастрычнік” і „Х Октябрь”. Большая палова малюнкаў гэтай фабрыкі была падобна на малюнкі іншых беларускіх запалкавых фабрык 1930-х гадоў. Але былі і цікавыя этыкеткі з асаблівымі малюнкамі. На адной з этыкетак, на-

прыклад, мастак намаляваў чалавека з молатам, які разбівае ланцуг, накінуты вакол глобуса. І тэкст на этыкетцы: „Бел. дзярж. запалкавы трэст. Фабрыка „Х-ы Кастрычнік". БССР Рэчыца ВСНГ. Цана 1 ½". Запалкі з такімі этыкеткамі выпускаліся ў 1930 годзе.

На многіх этыкетках публікаваліся розныя заклікі. У 1933 годзе з'явілася этыкетка ў гонар 15-га з'езда кампартыі Беларусі. Была і этыкетка з такім тэкстам: „Белзапалаб'яднаньне ВСНГ БССР. Ударны выпуск 9-му зьезду прафсаюзаў СССР – ударная брыгада сусьветнага пролетарыяту. Ф-ка „Х Кастрычнік". Рэчыца Цана 2 к.".

Выключную па сваёй грамадскай значнасці і хуткую па тым часе фабрыка „Х Кастрычнік" выпусціла запалкавую этыкетку, прысвечаную гераічнай эпапеі чалюскінцаў, калі з лядовага палону быў вывезены на самалётах 101 чалавек. Этыкетка была на дзвюх мовах. Вось яе тэкст: „Наркомлес Галоўспічпром. Ф-ка „ Х Октябр" г. Рэчыца, БССР. У коробку 52 шт. Цана 3 кап". Гэта быў 1934 год.

У 1937 годзе фабрыка „Х Кастрычнік" выпускае запалкі, прысвечаныя 20-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі з наступным тэкстам: „Наркомлес БССР Фанзапалкпром. ХХ год кастрычніка. Ф-ка Х окцябр. г. Рэчыца. ОСТ 8293. У кар.52 шт. Цана 2 кап.".

У 1933-1936 гадах шмат беларускамоўных этыкетак выйшла з вялікімі літарамі СССР.

## Запалкі з Гомеля

Заснавальнікам і ўласнікам Гомельскай запалкавай фабрыкі, якая знаходзілася ў вёсцы Пануровa Чарнігаўскай вобласці ў 1879 годзе быў яўрэй Вітэнберг. Але пасля пажару, гаспадар перанёс фабрыку ў пасёлак Новабеліца недалёка ад Гомеля. У 1892 годзе Вітэнбер назваў сваю фабрыку „Везувій".

У 1903 годзе фабрыка стала ўласнасцю і Вітэнберга і Дунаеўскага. Запалак прадпрыемства выпускала шмат, яны актыўна экспарціраваліся ў Персію і краіны Бліжняга Усходу.

У 1918 года, пасля кастрычніцкага перавароту ў Расіі, запалкавая фабрыка ў Новабеліцы стала называцца „Полымя рэвалюцыі", але праз некалькі месяцаў ёй вярнулі старую назву „Везувій". Калі ўзнікла Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР), фабрыку „Везувій" нацыяналізавалі, але назву старую ёй пакінулі. 8 красавіка 1937 года Гомельскі фанерны завод і запалкавую фабрыку „Везувій" аб'ядналі ў Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат.

У гады Другой сусветнай вайны камбінат эвакуіравалі ў расійскі горад Барнаул. А пасля вызвалення Гомеля ў лістападзе 1943 года, запалкавае прадпрыемства ў Гомелі зноў аднавілі. Цяпер у горадзе над Сожам запалкаў ужо не выпускаюць.

Да 1930 года фабрыка „Везувій" не выпускала беларускамоўных этыкеткаў на запалкавых карабках. І толькі ў 1930 годзе выйшлі першыя беларускамоўныя этыкеткі з тэкстам: „Белзапалкаб'ядналньне БССР Ф-ка „Вэзуві" Горад Новабеліца Цана 2 кап.". І быў намаляваны малюнак, падобны на герб СССР. Такая самая падобная беларуская этыкетка выпускалася вельмі шмат разоў, на якой толькі мяняўся кошт запалак: 1 ½ кап. і 3 кап. А таксама па-рознаму была напісана Новабеліца: то Н.-Беліца, то г. Нова-Беліца, то горад Новабеліца.

У 1934-1936 гадах у фабрыкі „Везувій" з'явіліся новыя этыкеткі, на якіх быў намаляваны вялікі паветраны шар з зоркаю і з літарамі СССР. А таксама з такім тэкстам: „Наркомлес Галоўзапалкпром Ф-ка



























„Везувій” г. Нова-Барысаў, БССР У карабку 52 шт. Цана 3 кап.”.

У 1937 годзе на фабрыцы „Везувій” выпускаюцца запалкі з беларускамоўнай этыкеткай, прысвечанай розным савецкім экспедыцыям на Паўночны полюс і палётам у Антарктыду.

Перад пачаткам Другой сусветнай вайны фабрыка „Везувій” выпусціла яшчэ шэраг беларускамоўных этыкетак. А пасля вайны на беларускай мове этыкетак на запалкавых карабках у Гомелі стала выпускацца мала. Гомельская фанерна-запалкавая фабрыка выпусціла шмат падобных этыкетак, якія выпускалі іншыя запалкавыя фабрыкі Беларусі, найперш гэта – прысвечаныя Трэцяй зімовай спартакіядзе прафсаюзаў БССР у Мінску, 40-годдзю БССР і некаторыя іншыя.

У 1957 годзе на фанерна-запалкавай фабрыцы ў Гомелі з’явіліся запалкі, на якіх вялікім шрыфтом было напісана: БССР 75 штук…

## Янка Купала і Якуб Колас у філуменіі

Меў рацыю аршанскі калекцыянер Алесь Сярожкін, калі апублікаваў у газеце „Беларускі калекцыянер” за люты 2005 года свой „Дадатак да энцыклапедычнага даведніка”. У ім аўтар напісаў, што „гартаючы старонкі энцыклапедычнага даведніка „Янка Купала”, які выйшаў з друку ў Мінску ў 1986 годзе, дарэмна будзеце шукаць там раздзел філуменія, каб даведацца, якія этыкеткі ад запалак прысвечаны беларускаму песняру. Ёсць там раздзел філакартыя, дзе падаюцца звесткі пра паштоўкі з выявай Купалы. Раздзелу фалерыстыка няма, але ёсць артыкулы пра купалаўскія значкі і медалі”.

Сапраўды, аўтары-складальнікі Купалаўскай энцыклапедыі ці ўвогуле нічога не ведалі пра Купалаўскую філуменію, ці то палічылі, што гэтыя звесткі не вартыя, каб іх уключыць у энцыклапедыю. Але, калі змяшчаюцца артыкулы па адных галінах калекцыяніравання, то трэба абавязкова публікаваць іншыя. Таму вельмі дарэчы там быў бы раздзел, прысвечаны Купалаўскай філуменіі.

У 1967 годзе Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат да 85-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы выпусціў серыю запалак з этыкеткамі. На адной з этыкетак адлюстраваны партрэт песняра, які павернуты направа. Пад ім чорнай фарбай напісаны тэкст: „85 год з дня нараджэння Янкі Купалы”. Тэкст акруглены ў правы бок.

На другой этыкетцы адлюстравана хата ў Вязынцы, дзе нарадзіўся Янка Купала. На трэцяй этыкетцы змешчаны здымак музея Янкі Купалы ў Мінску.

Пінскі фанерна-запалкавы камбінат таксама ў 1967 годзе выдаў аднатыповую серыю падобным этыкетак на запалках. Але надпіс „85 год з дня нараджэння Янкі Купалы” на гэтых этыкетках напісаны зялёным і сінім колерамі.

Да 90-годдзя Янкі Купалы Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат у 1972 годзе выпусціў запалкі з партрэтам Янкі Купалы і тэкстам: „90 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы”, а таксама з музеем Янку Купалы ў Мінску і хатай у Вязынцы, дзе ён нарадзіўся.

У 1961 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат распачаў выпускаць серыю этыкетак на якіх рэкламаваліся творы беларускіх пісьменнікаў. Выйшла з друку і этыкетка, прысвечаная Янку Купалу з тэкстам: „Янка Купала. Падпісвайцеся ў кнігарнях БССР на збор твораў Я.Купалы ў 6 тамах”. На этыкетцы таксама змешчаны купалаўскі гусляр і іншыя героі купалаўскіх твораў.

У 1962 годзе да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат выдаў некалькі запалкавых этыкетак, прысвечаных гэтаму юбілею. Усе яны выйшлі пад адным загалоўкам „80 год з дня нараджэння народнага паэта БССР Якуба Коласа”. На розных этыкетках былі змешчаны хата ў вёсцы Акінчыцы, дзе нарадзіўся Якуб Колас, Мінскі літаратурны музей Якуба Коласа, Плошча Якуба Коласа ў Мінску і вокладка кнігі „На ростанях”.

Да 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, у 1972 годзе гэты самы Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат выпусціў зноў некалькі відаў этыкетак на запалках. На іх адлюстраваны партрэт песняра павернуты направа, малюнкі філіяла літаратурнага музея ў вёсцы Мікалаўшчына Стаўбцоўскага раёна, тэатра Якуба Коласа ў Віцебску, фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН БССР, Мікалаеўшчынскай школы імя Якуба Коласа, літаратурнага музея імя Якуба Коласа ў Мінску.

У 1962 годзе Барысаўскі фанерна-запалкавы камбінат да 80-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа разрэкламаваў на этыкетках яго мастацкі твор „На ростанях”. А годам раней гэты камбінат выпусціў запалкі з такім заклікам: „Якуб Колас. Падпісвайцеся ў кнігарнях БССР на збор твораў Я.Коласа ў 12 тамах”.

## Пастскрыптум

Сёння ў Беларусі запалкі выпускаюць два вялікіх прадпрыемствы – холдынгавая кампанія „Пінскдрэў” і ААТ „Барысаўдрэў”, а таксама прыватнае прадпрыемства „Каралева агню”. Спрабуе выпускаць сувенірныя запалкі на магнітіках і прыватны прадпрымальнік Ерашэнка Г.І. Калі спадар Ерашэнка выпусціў шмат сувенірных запалак з каляровымі этыкеткамі, на якіх лацінкай напісана Minsk Belarus, то вышэй згаданыя прадпрыемствы да беларускамоўных этыкетак на запалках адносяцца неяк гідліва. „Барысаўдрэў” і „Пінскдрэў” у апошнія два гады выпусцілі серыю цікавых каляровых этыкетак, прысвечаных гербам гарадоў Рэспублікі Беларусь, узнагародам і зброі Перамогі, а таксама запалкавым галаваломкам. На вялікі жаль, усе яны пабачылі свет толькі на рускай мове.

**Сяргей Чыгрын**























# Календарыюм

## Лістапад – гадоў таму

**390** – 13.11.1625 г. памёр Саламон Рысіньскі (нар. каля 1560 г. у Рысіне на Полаччыне), філёзаф, паэт і настаўнік. Сваю радзіму называў „Лейкарасіяй” (Беларусь). Настаўнічаў м. інш. у Гданьску і ў гарадах Нямеччыны (да 1587 г.). З 1600 г. служыў настаўнікам і паэтам у Радзівілаў, пісаў філязафічныя расправы, меў цесныя сувязі з арыянамі.

**270** – 30.11.1745 г. у Мерачоўшчыне на Палесьсі нар. Андрэй Тадэўш Бонавэнтура Касьцюшка, палітычны і вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік паўстаньня 1794 г. Памёр 15.10.1817 г. у Салюры ў Швайцарыі. Зараз яго родны дом адбудаваны.

**230** – 19.11.1785 г. у вёсцы Волька Выганоўская каля Орлі нар. Міхал Баброўскі (пам. 3.10.1848 г. у Шэрашаве), выдатны беларускі вучоны – беларусазнаўца, арыенталіст, прафэсар Віленскага ўнівэрсытэту.

**220** – 25.11.1795 г. кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адмовіўся ад трону на карысьць расійскай імпэратрыцы Кацярыны II. Рэч Паспаліта спыніла сваё дзяржаўнае існаваньне.

**215** – 6.11.1800 г. у маёнтку Аборак каля Маладэчна нар. Леанард Ходзька, выдавец, гісторык, публіцыст, бібліёграф. Вучыўся ў Віленскім унівэрсытэце (1816-1817), быў членам таварыства філярэтаў. У 1819-1822 гг. быў сакратаром Міхала Клеафаса Агінскага ў Залесьсі, у 1822 г. эміграваў за мяжу, з 1826 г. жыў у Парыжы. Напісаў м.інш.: паэму „Залесьсе” (1821), біяграфію А.Т.Б. Касьцюшкі (1837), выдаў м. інш.: зборнікі твораў Адама Міцкевіча (1828), мэмуары Агінскага (1827-1828). Памёр 12.03.1871 г.

**190** – 17.11.1825 г. у маёнтку Пятроўскае Цьвярской губерні памёр Зарыян Далэнга-Хадакоўскі (сапр. Адам Чарноцкі – нар. 24.12.1784 г. у Гайне на Лагойшчыне), пачынальнік беларускай і наогул славянскай археалёгіі, фальклярыстыкі, этнаграфіі і дыялекталёгіі.

**160** – 26.11.1855 г. памёр у Канстантынаполі Адам Міцкевіч (нар. 24.12.1798 г. у Завосьсі каля Наваградка), выдатны паэт-рамантык.

**140** – 11.11.1875 г. у Менску нар. Альбэрт Паўловіч (пам. 17.03.1951 г. у Курску) пісьменьнік. Літаратурную дзейнасьць пачаў у канцы XIX ст., друкаваўся з 1907 г. у „Нашай Ніве”. У 1910 г. у віленскім выдавецтве „Палачанін” выйшаў ягоны першы зборнік „Снапок”. Пісаў гумарыстычныя творы, вершы для дзяцей.

**130** – 12.11.1885 г. у Чорным каля Рэчыцы нар. Міхаіл Грамыка (пам. 1.07.1969 г. у Хімках Маскоўскай вобл.), геоляг, географ, пісьменьнік. Прасьледаваны савецкімі органамі бясьпекі, з 1930 г. па 1953 г. на прымусовым пасяленьні ў Сібіры. Літаратурныя творы друкаваліся з 1907 г., аўтар выдадзенай у 1923 г. „Пачатковай геаграфіі”.

**110** – 1.11.1905 г. у в. Баброўня Гарадзенскага павету нар. Міхась Васілёк (сапраўднае прозьвішча Касьцевіч, пам. 3.09.1960 г. у Гародні), пісьменьнік, дзеяч нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. Друкаваўся з 1926 г., арганізаваў на Ськідзельшчыне гурткі Таварыства Беларускай Школы ды Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. У верасьні 1939 г. будучы жаўнерам Войска Польскага трапіў у нямецкі палон, дзе разам з Янкам Брылём вёў нацыянальную працу сярод палонных беларускага паходжаньня. Пасьля вайны жыў на Гарадзеншчыне.

**110 –** 22.11.1905 г. у Гародні нар. Мсьціслаў Аляхновіч, мовазнавец. Закончыў гуманістычны і праўны факультэты Віленскага ўнівэрсытэта. Пасьля II сусьветнай вайны кіраваў Дзяржаўнай Рэпатрыяцыйнай Упраўай (Państwowy Urząd Repatriacyjny). З 1949 г. працаваў навукова ў Лодзінскім унівэрсытэце, дасьледаваў рускую мову і займаўся беларускім фальклёрам і мовай у XIX ст. Памёр 24.07.1982 г. у Лодзі. У 1986 г. была выдадзена яго доктарская дысэртацыя „Polscy badacze folkloru i języka białoruskiego w XIX w.”

**105** – выданьне у 1910 г. перша-

га зборніка вершаў Якуба Коласа „Песьні жальбы”.

**100 –** 1.11.1915 г. нар. у Покаршаве на Случчыне Міхась Кавыль (сапр. Язэп Лешчанка), беларускі эміграцыйны паэт, з 1944 г. на эміграцыі, сьпярша ў Нямеччыне, з 1950 г. – у ЗША. Выдаў кнігі паэзіі: „Ростань” (1947), „Пад зорамі белымі” (1954), „Першая рана” (1960), „Цяжкія думы” (1961), „Міжагнёўе” (1990).

**100** – у лістападзе 1915 г. у выніку стараньняў беларускіх нацыянальных дзеячаў (падчас нямецкай акупацыі) пачалі адкрывацца на Віленшчыне першыя беларускія школы.

**95** – 27.11.1920 г. пачаліся першыя баі беларускіх вайсковых фарміраваньняў на Случчыне. У палове лістапада адбыўся зьезд партыяў ды грамадзкіх арганізацыяў, які акрэсьліў Случчыну як частку тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ды заклікаў да агульнабеларускага змаганьня супраць бальшавіцкай улады, за беларускую незалежную дзяржаву. Вайсковыя дзеяньні закончыліся ў другой палове сьнежня 1920 г. бальшавіцкай збройнай перамогай. У баях удзельнічаў беларускі батальён зь Беласточчыны, які ўзначальваў ураджэнец Гарадка Мікола Дзямідаў.

**90** – 18.11.1925 г. у Вільні выйшаў з друку першы нумар газэты „Беларуская Ніва”, якая зьяўлялася прэсавым грамадзка-палітычным органам Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Фактычным рэдактарам быў Янка Бабровіч. Паяўлялася 3 разы ў тыдзень, было выдадзена 35 нумары. Зьмяшчаліся на яе старонках карэспандэнцыі зь Беласточчыны.

**90 –** 25-29.11.1925 г. адбыўся ў Менску І Усебеларускі зьезд паэтаў і пісьменьнікаў аб'яднаньня „Маладняк”.

**85** – 1.11.1930 г. быў надрукаваны ў Вільні першы нумар часопіса „Беларускі Кліч” рэдагаванага Б. Кляпацкім.

**85** – 2.11.1930 г. у вёсцы Бандары нар. Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі) паэт, літаратуразнавец, перакладчык, вучоны. Друкуецца з 1956 г., аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў, паэм, навуковых артыкулаў, унівэрсытэцкіх ды школьных падручнікаў. Шматгадовы старшыня „Белавежы”, ГП БГКТ. *Віншуем з юбілеем!*

**85** – 26.11.1930 г. у Оршы нарадзіўся Уладзімір Караткевіч (пам. 25.07.1984 г.) выдатны беларускі пісьменьнік, стваральнік беларускага гістарычнага рамана. Друкаваўся з 1955 г., больш вядомыя творы: „Цыганскі кароль” (1961), „Дзікае паляваньне караля Стаха” (1964), „Каласы пад сярпом тваім” (1968), „Чорны замак Альшанскі” (1983).

**75** – 6.11.1940 г. памёр у Вільні Лявон Вітан-Дубейкаўскі, архітэктар, грамадзкі дзеяч (нар. 7.07.1869 г. у в. Дубейкава Мсьціслаўскага павету). Пахаваны на могілках Росы.

**45 –** 24.11.1970 г. памёр у Вільні Адольф Клімовіч, беларускі нацыянальны дзеяч. Пахаваны на парахвіяльным могільніку ў Клюшчанах.

**35 –** 6.11.1980 г. памёр у Нью Ёрку Станіслаў Станкевіч (нар. 23.02.1907 г. у Арлянятах на Ашмяншчыне), нацыянальны дзеяч, журналіст, гісторык, літаратуразнавец.

**30** – 20.11.1985 г. памёр у Беластоку Юрка Геніюш (нар. 21.10.1935 г. у Зэльве), лекар, пісьменьнік, сын Ларысы Геніюш. Дэбютаваў як празаік у „Ніве”.

*Апрацавалі* **Лена Глагоўская** і **Вячаслаў Харужы** ■

***Wyszperane w archiwum***

# *Karty bieżeńców*

Tematyka bieżeństwa 1915 roku do Rosji stopniowo jest coraz lepiej poznawana nie tylko dzięki wspomnieniom, ale także źródłom historycznym z tego okresu. Jednak na tym polu jeszcze bardzo wiele jest do odkrycia. Archiwa skrywają wiedzę niezbędną do poznania szerszego tła wydarzeń związanych z exodusem ludności cywilnej w pierwszych dwóch latach wojny, ale przede wszystkim bardzo cenne fakty związane z historią poszczególnych miejscowości, rodzin i konkretnych osób. Rosyjska administracja państwowa na poszczególnych etapach przemieszczania się ludności prowadziła jej ewidencję. Przed opuszczeniem gospodarstw urzędnicy *wołaści* (gmin) opisywali pozostawiany majątek, w czasie przemieszczania się uchodźców także starano się rejestrować miejsca kolejnego pobytu i pracy. Przybyłych do miejsc osiedlenia spisywano, sporządzano sprawozdania na niższych szczeblach administracji do wyższych instancji. Takie sprawozdania i zestawienia prawdopodobnie zachowały się w archiwach obwodowych Federacji Rosyjskiej. Ciekawymi źródłami są karty bieżeńców – карточки регистрации беженцев (на семю). Były one sporządzane dla poszczególnych miejscowości, w których przebywali bieżeńcy. Zapisywano w nich imiona, nazwiska, wiek i pokrewieństwo członków rodzin, skąd pochodzili, wykształcenie, wykonywaną pracę. Ale także, co jest bardzo interesujące, datę opuszczenia wsi, datę dotarcia do nowego miejsca osiedlenia, przebytą trasę, pozostawiony areał zasianej ziemi, ilość inwentarza gospodarskiego oraz budynki i ich stan techniczny. Karty nie miały numerów ewidencyjnych. Są to bardzo cenne dane dla poznania losów poszczególnych rodzin, całych wsi, badań genealogicznych, stanu gospodarki.

W Archiwum Państwowym Obwodu Tomskiego zacho-

wały się takie karty dla *ujezdu* (powiatu) maryińskiego. Obszar ten znajduje się pomiędzy Tomskiem a Krasnojarskiem (zachodnia i środkowa Syberia). Nie zachowały się takie karty dla innych regionów ówczesnej ogromnej guberni tomskiej. Niestety, karty te były sporządzane dwa lata po przybyciu bieżeńców, we wrześniu 1917 r., a niektóre na początku 1918 roku. W innych guberniach być może sporządzano je zaraz po przybyciu. Znaczna cześć tam przebywających bieżeńców pochodziła z guberni grodzieńskiej i wileńskiej. Także z naszego regionu. W miejscowości Bogotoł, znalazły się rodziny spod Białegostoku i Sokółki. Miejscowość ta liczyła wówczas kilka tysięcy mieszkańców, położona była jak i dziś na trasie kolei transsyberyjskiej, w odległości ok. 240 km na zachód od Krasnojarska. Zamieszkały tu trzy prawosławne rodziny ze wsi Ruszczany koło Choroszczy (Iwana Grynasza, Anny Reszeć i Kozłowskich), jedna rodzina ze wsi Starosielce (obecnie ulica Starosielce w Białymstoku, rodzina Emilii Dziemiańczuk), jedna rodzina ze wsi Ostrów koło Krynek (obecnie Ostrów Południowy i Północny, rodzina Anny Horosz). Typowe, że w spisie członków rodzin nie było mężczyzn w wieku do ok. 50 lat. Byli oni zmobilizowani do armii. Jedyny dorosły mężczyzna spośród wymienionych rodzin, Iwan Grynasz, liczył 71 lat. Zamieszczamy trzy takie karty, w przekładzie z języka rosyjskiego na język polski, niektóre rubryki (głównie nieuzupełnione) zostały pominięte. Daty podane są wg starego stylu. Narodowość wszystkich prawosławnych bieżeńców, np. prawosławnych Białorusinów z guberni grodzieńskiej czy prawosławnych Ukraińców z guberni wołyńskiej, władze rosyjskie podawały wyłącznie jako rosyjską.

**Wiesław Choruży**

## *Karty rejestracyjna rodzin bieżeńców*

***1***

*Gubernia Tomska, Ujezd Marińsk, miejscowość Bogotoł, 27 września 1917 r.*
*Nazwisko: Grynasz*
*Imię: Iwan s. Andreja*
*Obywatelstwo: rosyjskie*
*Narodowość: rosyjska*
*Wyznanie: prawosławne*
*Pochodzenie: chłopskie*
*Miejsce poprzedniego zamieszkania: Gubernia Grodzieńska, Ujezd Białostocki, Gmina Choroszczańska, wieś Ruszczany*
*Przebyta droga: Ruszczany, Moskwa, Samara, Czelabińsk, Marińsk*
*Data wyjazdu: 28 czerwca 1915 r.*
*Data przybycia: 17 sierpnia 1915 r.*
*Pozostawiono:*
*Obszar zasiewu: 4,5 dziesięciny*
*Inwentarz roboczy: 1*
*Inwentarz rogaty: 4*
*Dom z zabudowaniami*
*Członkowie rodziny przebywający razem:*
*Iwan, lat 71*
*Córka: Maria, lat 18*
*Żona: Anastazja, lat 50*

***2***

*Gubernia Tomska, Ujezd Marińsk, miejscowość Bogotoł, 27 września 1917 r.*
*Nazwisko: Reszeć*
*Imię: Anna c. Iwana*
*Obywatelstwo: rosyjskie*
*Narodowość: rosyjska*
*Wyznanie: prawosławne*
*Pochodzenie: chłopskie*
*Miejsce poprzedniego zamieszkania: Gubernia Grodzieńska, Ujezd Białostocki, Gmina: Choroszczańska, wieś Ruszczany*
*Przebyta droga: Ruszczany, Piotrogród, Wiatka, Tiumeń, Marińsk*
*Data wyjazdu: 7 sierpnia 1915 r.*
*Data przybycia: 3 września 1915 r.*
*Pozostawiono:*
*Obszar zasiewu: 8 dziesięcin*
*Inwentarz roboczy: 1*
*Inwentarz rogaty: 4*
*Dom z zabudowaniami*
*Członkowie rodziny przebywający razem:*
*Anna, lat 45*
*Córka: Leokadia, lat 13*
*Córka: Marelina (? – W.Ch.), l. 11*

***3***

*Gubernia Tomska, Ujezd Marińsk, miejscowość Bogotoł, 27 września 1917 r.*

*Nazwisko: Horosz*
*Imię: Anna c. Antona*
*Obywatelstwo: rosyjskie*
*Narodowość: rosyjska*
*Wyznanie: prawosławne*
*Pochodzenie: chłopskie*
*Miejsce poprzedniego zamieszkania: Gubernia Grodzieńska, Ujezd Sokólski, Gmina: Ostrowska, wieś Ostrów*
*Przebyta droga: Ostrów, Piotrogród, Tiumeń, Maryńsk*
*Data wyjazdu: 8 sierpnia 1915 r.*
*Data przybycia: 11 września 1915 r.*
*Pozostawiono:*
*Obszar zasiewu: 9 dziesięcin*
*Inwentarz roboczy: 1*
*Inwentarz rogaty: 4*
*Dom z zabudowaniami*
*Członkowie rodziny przebywający razem:*
*Syn: Siergiej, l. 10*
*Matka: Anna, lat 41*
*Córka: Zinaida, lat 5*

# *Leon Moenke* Tundra

***10***. Z czym wrócę? Co czynić?

Jeżeli wrócę, to będzie bezowocnie stracony jeden dzień, być może decydujący dla Haliny.

Lecz skąd mogę mieć pewność, że w końcu fiordu znajdę ludzi?

Myśli plątały się w głowie, wytwarzając chaos.

„Jeżeli ginąć, to razem” – przypomniały mi się jej słowa.

Wracałem.

Przed zapadnięciem ciemności powinienem wrócić do niej. Przyśpieszyłem kroku.

Wzdłuż brzegu raz po raz pojawiały się wydeptane dróżyny, lecz ludzi nie napotykałem. Czasem dróżyny te doprowadzały do szałasów. Zachodziłem do wnętrza. Lecz nic nowego w nich nie znajdywałem. Takie same urządzenia wewnętrzne, te same gazety, przeważnie z datą czerwcową. Pudełka od zapałek i papierosów fińskich, puszki od konserw i bańki od nafty. Oto wszystko. U wejścia znajdywałem drzewo opałowe. Wziąłem to pod uwagę. A więc można będzie rozpalić ognisko, ogrzać się i dać sygnał alarmowy.

W jednym z szałasów znalazłem nawet instalację i żarówkę elektryczną pod stołem. Zapewne gospodarz przywoził ze sobą akumulator.

*Kurier Wileński” nr 157, 10.06.1938 r., s. 6*

W jednym miejscu zrobiłem odkrycie o charakterze całkiem odmiennym: po raz pierwszy za czas naszej tułaczki przez tundrę napotkałem kwiaty – liliowe dzwoneczki.

Chciwie rzuciłem się na kwiaty.

Niechże z kwiatami chociaż wrócę do niej!

Ułożywszy bukiet, ruszyłem dalej.

Z artykułów spożywczych nigdzie nic, pomimo bardzo starannych poszukiwań.

Ze wszystkiego wynikało, że brzeg ten jest nawiedzany tylko przez ludzi i całkiem bezpłodny.

Wtem, z góry, dostrzegłem na zatoce statek, podążający ze wschodu na zachód.

Rzuciłem się mu na spotkanie.

Na brzegu morza wdarłem się na szczyt wzgórza. Stojąc na nim, zacząłem krzyczeć, machać rękami, czapką, chustką. Bukiet zawadzał. Cisnąłem go precz.

Statek się zbliżał, trzymając się równolegle brzegu, kierując się ku zachodowi. Nagle zmienił kierunek, zbliżając się do brzegu.

Zauważono mnie! Jesteśmy uratowani!

Promieniałem z radości i szczęścia.

Moje wołania z krzyków rozpaczy przeistoczyły się w krzyki triumfu. Zacząłem wymachiwać czapką i chustką jeszcze silniej.

Lecz będąc już blisko brzegu, statek skierował znów na zachód.

Próżna radość, triumf i szczęście.

Nie zauważono mnie.

Błyskawicznie zebrałem rozrzucone po ziemi kwiaty, wsunąłem do kieszeni i z rozpaczą rzuciłem się w pogoń za statkiem, skacząc, padając na ziemię, podnosząc się, machając rękami.

Lecz rychło przekonałem się, że trud mój daremny, odległość między nami zwiększała się. Wciąż jednak nie przestawałem krzyczeć, wymachując rękami, dopóki statek za zakrętem przybrzeżnym nie zginął mi z oczu.

Byłem zdruzgotany i zgnębiony.

Jedno nie ulegało wątpliwości, że zarówno na wschodzie w końcu zatoki, jak i gdzieś na zachodzie powinny być jakieś zamieszkałe punkty, między którymi utrzymuje komunikację ten statek.

A może to tylko statek rybacki, który przybywa tutaj tylko na połów ryb?

Wszystko jest możliwe.

Spojrzałem na zegarek, była siódma.

Całą godzinę straciłem na przyzywanie statku.

Do zmroku pozostawały tylko dwie godziny.

Zacząłem biec, by przed zmrokiem zdążyć do żony. Rozpacz dodawała mi sił. Tego dnia nic prawie nie jadłem. Dwa razy trochę się orzeźwiłem kilkunastu jagodami. Nigdy w życiu nie dążyłem ku niej z taką siłą, jak tego dnia.

Każdy nerw, każdy mięsień dążył ku niej. Jedna tylko myśl niepodzielnie panowała nade mną, przenikała całą moją istotę: „Prędzej, jak można prędzej ku niej”!

Biegłem, skacząc po głazach i kamieniach. Dziwię się, skąd wtedy miałem tyle siły i energii.

By skrócić sobie drogę, parłem górą, spoglądając na brzeg, czy nie widać naszej buchty. Lecz ciągle jej nie było. Już ciemniało.

Rozpacz mną ogarnęła. Zacząłem krzyczeć i wołać: „Hala! Hala!”

Zdawało mi się, iż miejsce naszego popasu jest blisko, że ona oczekuje mnie w pobliżu szałasu, że usłyszy.

Wołałem znowu, lecz odpowiedzi nie było.

Przyglądając się miejscowości uważniej, zacząłem wątpić, czy jestem w pobliżu upragnionej buchty.

Poszedłem na wschód. Biegnąć już nie mogłem, sił brakło i zresztą ciemności nie pozwalały na to. Rzeczka – potok przegrodziła mi drogę.

– Czy jest to ten strumień, który wyprowadził nas wczoraj w nocy ku morzu? Bądź co bądź zdecydowałem się przedostać na drugą stronę.

*Kurier Wileński” nr 158, 11.06.1938 r., s. 6*

Jeżeli to jest ten, który wyprowadził nas ku morzu, więc doszedłszy do końca zatoki „rybackiej” będę przynajmniej wiedział, że idąc górami, minąłem Halę i będę wiedział gdzie mam jej szukać.

U samego ujścia sterczały spod wody skały i kamienie. Prąd wody był silny. Zdecydowałem się w tym miejscu przedostać się na przeciwległy brzeg.

Zbyt już byłem zmęczony, by się rozebrać i przejść w bród. Zacząłem więc skakać z kamienia na kamień.

Na razie przeprawa odbywała się szczęśliwie. Lecz na środku rzeczki noga mi się pośliznęła i wpadłem do wody po szyję.

Czapka zleciała mi z głowy i popłynęła.

Ociekający wodą wylazłem na brzeg. Tego tylko brakowało. Silny północno-wschodni wiatr zamrażał mnie, gdym jeszcze był suchy.

Pierwszą myślą było rozebrać się i wykręcić wodę z ubrania. Lecz nowy silny poryw nord-ostu kazał mi zaniechać tej myśli.

Nic więc innego mi nie pozostawało, jak być w ruchu, by nie zamarznąć. Szedłem dalej na wschód.

Idąc w ciemnościach, posuwałem się prawie po omacku.

Myśl o żonie nie porzucała mnie ani na chwilę.

– Tylko prędzej wracaj z ludźmi – raz za razem dźwięczało w mych uszach.

– Czy nie zwariowałem, ciągnąc kobietę w ciąży za sobą do tundry, do tej dzikiej, na setki kilometrów bezludnej pustyni? – zadawałem sobie niezliczone razy to pytanie.

Rozpacz moja była bez granic i miary. Z siłą nie do pokonania ciągnęło mnie w dół do przepaści, nad którą się przedzierałem.

Lecz znowuż myśl o niej powstrzymywała mnie od tego.

– A jeśli ona żyje?! Czy nie będzie to najpodlejszą, najnikczemniejszą zdradą jej, leżącej bez sił na brzegu w oczekiwaniu pomocy?! Czy nie będzie to najhaniebniejszą małodusznością? Czy nie będzie to jej zgubą, jeśli jeszcze żyje? Znajdź ją przedtem żywą lub martwą, a potem rób z sobą co zechcesz!

„Cały do dna trzeba wypić kielich życia swój
Czy też z wodą życiodajną czy trucizną”,
i z tymi słowy Janki Kupały odszedłem od przepaści.

Miejsce, jak na złość, było odsłonięte przed zimnym, przeszywającym do szpiku kości nord-ostem. Nie pozostawało nic innego, jak ukryć się za skałą nad samym urwiskiem. Ziemia była wilgotna i zimna.

Lecz znalazłem wyjście. Na szyi miałem jedyną suchą część garderoby – szal.

Zrzuciwszy mokre buty i skarpetki, okręciłem nim nogi. Sprawiło mi to znaczną ulgę. Lecz drżałem od zimna jak poprzednio. Szczególnie dotkliwie odczuwałem brak czapki.

Nie widząc innego ratunku, zdjąłem swój mokry płaszcz i przykryłem nim głowę. To mi pomogło. Oddechem swym ogrzałem siebie.

Ciężkie, gniotące myśli nie dawały spokoju i teraz.

– Co będzie, jeśli w końcu zatoki, na wschodzie, nie znajdę ludzi?

Czy nie pójść i nie poddać się „tym”? Nie, za nic! Lepiej śmierć tu, na wolności!

Potworne zmęczenie wzięło jednak górę nad wszystkim.

Zbudziłem się wskutek dokuczliwego zimna. Rozpoczynał się szary świt. Wstałem szczękając zębami z chłodu.

Bez wiary, bez żadnej nadziei poszedłem przed siebie. Szedłem z opuszczoną głową, jedynie z obowiązku coś robić, coś czynić. W pewnej chwili spojrzałem na morze i zamarłem, nie wierząc swym oczom.

W zatoce stał szkuner.

W najwyższym podnieceniu rzuciłem się ku niemu.

– Men! Men! Lente! Lente! Ludzie! Ludzie! – krzyczałem nieustannie.

*Kurier Wileński” nr 159, 12.06.1938 r., s. 8*

Lecz na szkunerze nikt nie dawał znaku życia.

Czyżby tutaj nikogo nie było! – pomyślałem z przerażeniem, oglądając się dokoła.

Za drzewami ujrzałem dwie chaty.

Z płomienną nadzieją podbiegłem do pierwszej: pusta! Z rozpaczą rzuciłem się ku drugiej. Tu byli – ludzie!

## U fińskich rybaków

Zacząłem walić pięścią w drzwi.

Otworzono. Wszedłem do izby pełnej ludzi, którzy leżeli na łóżkach i podłodze.

– Do you speak english? Sprechen Sie deutsch? Goworitie po ruski?

Milczenie było mi odpowiedzią.

Wszyscy patrzyli na mnie ze zdumieniem.

– Do you speak..? – zacząłem znowu.

– Yes y do... – przerwał mi jeden z obecnych, podnosząc się z łóżka.

– I am a political emigrant from Russia – kontynuowałem. – Uciekłem z żoną. Ona jest bez sił, niedaleko stąd… Szukając ludzi, zgubiłem ją… Obawiam się o nią… Od wczoraj nic nie jadła… Proszę was, pomóżcie ją odnaleźć! – skończyłem swoją krótką historię.

Lecz on nie zrozumiał mnie. Znalazł zaledwie parę słów angielskich. Na szczęście jeden wśród obecnych trochę rozumiał po rosyjsku.

Zostałem w końcu zrozumiany.

– Gdzie jest ona? – zapytano.

– Przypuszczam, że na wschód od tego miejsca.

Mój rozmówca wyraził powątpiewanie.

Wyjąłem mapę i pokazałem im miejsce, w którym dotarliśmy do morza i trasę mojej wczorajszej podróży.

– Ona znajduje się na zachód stąd – zawyrokowano.

– Tea or coffee? – spytano mnie krótko.

– Coffe – odrzekłem.

Rzekł coś po fińsku. Rozpalono ogień w piecu.

Następnie, zbliżywszy się ku mnie i zauważywszy, iż mam ubranie doszczętnie przemoczone, kazał mi się rozebrać.

Szybko rozebrałem się do naga. Wówczas jak z rogu obfitości, posypały się ku mnie bielizna, wełniane skarpetki, ubranie i duże buty fińskie z zakrzywionymi nosami. Rzeczy zaś moje natychmiast powędrowały nad płytę.

Słów mi było brak dla wyrażenia im swej wdzięczności.

Na kawę niedługo trzeba było czekać. Na stole jednocześnie ukazał się chleb, cukier, ryba. Rzuciłem się chciwie na jedzenie.

Widząc mój apetyt, znawca nielicznych słów angielskich zbliżył się ku mnie i rzekł:

– Nie jedz tak dużo od razu. Zachorujesz. Potem powtórzysz…

Z wdzięcznością spojrzałem na niego.

– Macie rację – odparłem.

Rybak uśmiechnął się dobrodusznie.

Inni już byli gotowi do drogi.

– Idą szukać waszej żony – rzekł „Anglik”.

– Pójdę z nimi – odrzekłem.

Ubrano mnie natychmiast w watowaną kurtkę, a ponadto dano do nałożenia na wierzch kurtkę skórzaną bez rękawów, czapkę i jeszcze jedną drugą parę skarpetek wełnianych. Byłem rozczulony wprost tą troskliwością matczyną, z jaką ubierali mnie ci po raz pierwszy spotkani ludzie.

Jeden zaś z nich ładował tymczasem do plecaka artykuły spożywcze.

Ruszyliśmy.

Rybak, który ładował prowianty, umiał trochę po rosyjsku. Pomagając sobie mimiką, zaczął mi wyrażać swoje współczucie, a wrogi stosunek do Sowietów.

– Siostra moja jest aresztowana i siedzi już półtora roku w Usłonie. Nas Finów tam gnębią i prześladują, ja tam również byłem. Lecz my jeszcze się porachujemy – zakończył, spoglądając z nienawiścią na wschód.

W czasie tej rozmowy przyniesiono wiosła i zaczęto spychać łódź na wodę.

*Kurier Wileński” nr 161, 14.06.1938 r., s. 5*

*Cdn* ■

***Спадчына***

# *Гумарыстычныя вершы Уладзіслава Паўлюкоўскага*

**Сёлета ў траўні споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, празаіка, этнографа, краязнаўца і мастака Уладзіслава Паўлюкоўскага (1895-1955). На вялікі жаль, пра гэты юбілей таленавітага беларуса амаль ніхто ў нас не згадаў і ніхто гэты юбілей не заўважыў. А ў верасні споўнілася 60 гадоў з таго часу, калі Паўлюкоўскага не стала. Два юбілеі – радасны і сумны.**

Літаратурная спадчына Уладзіслава Паўлюкоўскага раскідана па многіх заходнебеларускіх газетах і часопісах. Ён друкаваўся пад сваім уласным імем, а таксама пад псеўданімамі і крыптанімамі У-Ініцкі; Улад. Ініцкі; У.І.Ніцкі; Улад-Ініцкі; Унучак; У. Паў-скі; Ул.Паў-скі; У.І.; У.-І.; Ў.П. у „Маланцы”, „Нашай справе”, „Голасе працы”, „Сялянскай ніве”, „Авадні”, „Шляху моладзі”, „Пралесках”, беларускіх календарах і зборніках. Пасля 1940 года ў Беларусі асобным выданнем не выйшла ніводнай кнігі твораў Уладзіслава Паўлюкоўскага.

Толькі ў 1928 годзе ў Вільні з'явіліся кніга вершаў „Сон Гаўрылы і розныя вершы", потым – „Апавяданні" (Вільня, 1929), зборнічак жартаў „Клім бабаю і іншыя жарты" (Вільня, 1929) і ўспаміны „Арышты: Бяроза і воля" (Вільня, 1940). Вось і ўсё, што пабачыла свет Уладзіслава Паўлюкоўскага. Усе гэтыя выданні выйшлі пад псеўданімамі Улад-Ініцкі.

Нарадзіўся гэты таленавіты чалавек на тэрыторыі сучаснай Стаўбцоўшчыны ў вёсцы Ініца ў шматдзетнай сям'і. Вучыўся ў Стоўбцах і ў Наваградку, потым у Харкаўскім мастацкім вучылішчы.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, яго забралі на фронт. Служыў прапаршчыкам, быў палкавым пісарам у штабе 530-га пяхотнага палка, франтавыя дзеянні якога канцэнтраваліся пераважна на Віленшчыне. Малады прапаршчык падчас непрацяглага зацішша паміж баямі з дапамогай фотаапарата стварыў франтавы фоталетапіс жыцця асобнага палка. Пазней атрыманыя фатаграфіі склалі два альбомы невялікага фармату. Навуковыя супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі Таццяна Жук і Марына Ліс апублікавалі шэраг ваенных фотаздымкаў Паўлюкоўскага на сайце http://news.tut.by.

У 1920 годзе Уладзіслаў Паўлюкоўскі прыехаў у родную вёску. Адпачыў там ад войнаў, набраўся сіл і з'ехаў у Вільню. У старажытным горадзе наладзіў сувязі з творчай інтэлігенцыяй, пачаў супрацоўнічаць з многімі беларускімі выданнямі, як графік удзельнічаў у выданні календароў, кніжак, падручнікаў, а таксама шмат фатаграфаваў. Першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 1926 годзе. Зоська Верас у пісьме да Адама Мальдзіса ад 4 ліпеня 1980 года пісала: „Не ведаю, ці Вы звярнулі ўвагу ў маім рукапісным зборнічку біяграфіяў беларускіх дзеячаў на гэтае прозвішча – У. Паўлюкоўскі. Ён няшмат пісаў, і творы сярэдняй вартасці, але адна работа вельмі цікавая – каляндар на круглы год. Кожны месяц мае назовы ў самых розных мовах, гісторыя кожнага месяца, пачынаючы ад назову, да святаў, звычаяў і г.д. пачынаецца ад рымскіх часоў, канчаецца звычаямі, прыказкамі і г.д. беларускага народу». У пісьме ад 18 сакавіка 1983 года Зоська Верас Адаму Мальдзісу паведамляла, што „ён быў і мастак, і пісьменнік. Супрацоўнічаў у гумарыстычных часопісах „Маланка" , у „Заранцы" выдаў кніжку перакладаў Л. Талстога. Але галоўная яго праца – „Гісторыя календароў…" (Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня-Wrocław, 2013. С.192, 261).

Сапраўды, найбольш вядомая праца Уладзіслава Паўлюкоўскага ў 1930-я гады – гэта этнаграфічныя эцюды, прысвечаныя кожнаму месяцу года, – своеасаблівы народны каляндар, у якім апісваліся традыцыйныя народныя святы, звычаі, абрады, прыводзіліся народныя прыказкі, адпаведныя земляробчаму цыклу, тлумачыліся назвы месяцаў і іх першакрыніцы, а таксама назвы ў календарах іншых народаў, пачынаючы са старажытных часоў.

Шмат пісаў паэт гумарыстычных твораў. У іх ён апісваў анекдатычныя жыццёвыя сітуацыі, розныя камічныя здарэнні, выпадкі.

У 1940 годзе Уладзіслаў Паўлюкоўскі стаў працаваць у Беларускім музеі імя Івана Луцкевіча. А пасля вайны да 1948 года ўзначальваў Літаратурны музей Аляксандра Пушкіна ў Вільні. Але аднойчы ў канцы лета яго арыштавалі органы МДБ. З Вільні паэта прывезлі ў Мінск і асудзілі да 10 гадоў лагероў.

Пасля смерці Сталіна, Уладзіслаў Паўлюкоўскі вярнуўся ў Вільню паралізаваным. Ён пражыў яшчэ два гады і памёр. Яму было толькі 60 гадоў, з якіх 7 ён правёў у зняволенні: Лукішкі, Картуз-Бяроза, ГУЛАГ.

Паэта пахавалі на віленскіх могілках Роса. Як пісала тая ж Зоська Верас Адаму Мальдзісу ад 4 ліпеня 1980 года: „На яго магіле ёсць маленькі помнік. Надпіс – па-беларуску. Апекаваліся магілай удава і яе сын – пасынак Паўлюкоўскага. Але апошнія гады, як мне казаў Янка Багдановіч, магіла зусім запушчаная" (Зоська Верас. Я помню ўсё. С.192).

Вось такі сумны лёс забытага беларускага літаратара Уладзіслава Паўлюкоўскага. Але ў жыцці ён быў і да смерці заставаўся аптымістам, любіў жарты і анекдоты. Таму давайце сёння прыгадаем гэтага таленавітага чалавека яшчэ раз і ўсміхнемся разам з ім, тым больш, што яго гумарыстычныя вершы і ў наш час не страцілі актуальнасці і гумару.

**Сяргей Чыгрын**

**Уладзіслаў Паўлюкоўскі**

## Як да дурня

Едзе Янка у вагоне,
У куточку там сядзіць,
На паноў тых і на паняў
Усё дзівуецца, глядзіць.
Закурыў сабе ён люльку –
Дымам пыкае, плюе,
А паны ўсё круцяць носам,
Чхаюць так, што страх бярэ.
І на Янку пазіраюць,
Як на дзікага звяра.
Вось адзін пан і пытае
Лапцявоза-мужыка:
– Ці бываў ты дзе на свеце,
Як гавораць між людзей?..
– Чаму не, – той Янка кажа, –
Пабывалася, ой-ей!
Быў у Горадне, у Вільні,
У Пазнані пабываў,
У Нясвіжы, і ў Варшаву
Нават лёс мяне ганяў…
– А скажы па колькі дурняў
Там на рынку прадаюць?..
– Гэта, пане, як да дурня,
Дзе якога пападуць:

Дурань-пан – заплацяць болей,
Бо на выстаўках дзяржаць,
Мужыка ж, як я, у лапцях,
Дык зусім не хочуць браць.

*1928 г.*

### Жонка мужа пахавала

Жонка мужа пахавала.
Плача, енчыць: „Ой, прапала!"
Рукі ломіць і галосіць,
Смерці ў Бога сабе просіць.
Ні ахвоты да той ежы,
Ні увагі да адзежы…
Плача жонка, нават млее,
З кожным днём усё худзее.
Ў хаце спаць адна баіцца,
Бо нябожчык ёй мраіцца…
І, як ночанька настане,
Жонкі ў хаце ані звання.
Нешта з тыдзень жонка ныла,
Да суседа ўсё хадзіла…
Потым стаў сусед прыходзіць,
Страхі з хаты ёй выводзіць.
Сорак дзён як праляцела,
Жонка жыць ужо хацела,
Бо нябожчыка ні следу…
„Дзякуй" любаму суседу!

*1928 г.*

### Ні добра, ні дрэнна

*(З Руданьскага)*

– А дзень добры!..
– Добры дзень.
– Што ты так змяніўся?
– Не дзівіся, сваце мой…
Я ўжо ажаніўся.
– Слава Богу, мой браток!
– Не, не слава Богу:
Жонка брыдкая, аж страх,
І крывель на ногу.
– Гэта дрэнна, мой браток!
– Вось не дрэнна, сваце,
Бо за ёю ўзяў пасаг,
Страшнае багацце.
Гаспадарку я падняў
І ўсяго меў многа…
– Слава Богу, мой браток…
– Не, не слава Богу. –
Гаспадарка ў прах пашла,
Ўсё гарэлка з'ела,
Ў хаце здарыўся пажар
І да тла згарэла.
– Гэта дрэнна…
– Вось і не!
Хата як гарэла,
Дык і жонка у агні,
Сваце, акалела.

*1928 г.*

### Тыдзень гультая

У нядзелю не працуе,
Шчыра-шчыранька святкуе,
Панядзелкам спачывае,
Ды нядзелю ўспамінае.
У аўторак думаць трэба,
Што рабіць, у чым патрэба.
Серадою разважае,
Сабе працу выбірае.
У чацвер збірае сілы –
Каб не лопнулі дзе жылы.
Ловіць пятніцай ахвоту –
Заўтра пойдзе на работу.
У суботу ж падлічае,
Што рабіў дзе, ды што мае.

*1929 г.* ■

# *Nowe portrety Eugeniusza Briańskiego*

W styczniu 2014 r. – trzy lata po ukazaniu się artykułu o Eugeniuszu Briańskim („Artysta odnaleziony po latach", „Czasopis" 2011, nr 1, 2) – poszukiwał mnie ks. prof. Henryk Paprocki. Okazało się, że w swych zbiorach posiada portret młodego Jerzego Klingera (1918-1976), prawosławnego duchownego, teologa i ekumenisty, prorektora Chrześcijańskiej Akademii Teologicznej, a prywatnie teścia obecnego właściciela obrazu. Eugeniusz Briański namalował młodzieńca w 1937 r., podobnie jak i portret jego ojca, profesora Uniwersytetu Poznańskiego Witolda Klingera (1875-1962), który jest w posiadaniu jego wnuka, syna Jerzego – dr. Michała Klingera.

Te dwa portrety, przedstawiające dwie wybitne postacie świata nauki, wzbogacają tak nikły zbiór zachowanych dzieł Eugeniusza Briańskiego, artysty o tragicznym losie. Próbowałam dojść, co przed II wojną światową łączyło Eugeniusza Briańskiego z rodziną Klingerów? Czy poznali się w cerkwi prawosławnej w Poznaniu? Czy były też inne okoliczności ich znajomości? Eugeniusz Briański wyprowadził się z Wilna 18 czerwca 1936 r. i sprowadził się do Poznania – z żoną Marią, córką Galiną i synem Włodzimierzem. Żona studiowała romanistykę, którą ukończyła w 1937 r. Być może to ona poznała profesora Witolda Klingera, a być może była jego studentką.

Briańscy mieszkali przed wojną w Poznaniu przy ul. Grottgera 3 m 7 z siostrą Eugeniusza – Walerią (Lalą) i matką Katarzyną, która wcześniej z leśnikiem Włodzimierzem Puchawko sprowadziła się z Podbrodzia pod Wilnem do nadleśnictwa Mochy pod Poznaniem. Eugeniusz Briański miał pracownię malarską przy ul. Chełmońskiego. Klingerowie po II wojnie światowej utrzymywali kontakt z Walerią Briańską, o czym pamięta dr Michał Klinger.

Do ukazania się w „Czasopisie" artykułu o Eugeniuszu Briańskim rodzina Klingerów nie wiedziała, co stało się z autorem przechowywanych w zbiorach rodzinnych portretów. A jak się okazało, ich portrety wzbogaciły jakże skromny dorobek nieźle

zapowiadającego się artysty, ucznia Ferdynanda Ruszczyca i Ludomira Sleńdzińskiego. W 1937 r. Eugeniusz Briański miał zaledwie 32 lata i stał na progu kariery. Niestety, lata wojny i powojenny ład rzuciły go w głąb Rosji – do rodzinnego Tambowa i rodzina w Poznaniu przez długie lat nie wiedziała, czy żyje. Pozostało kilka zaledwie jego obrazów. Dlatego niezwykle cenne są jego prace przechowywane w zbiorach rodziny profesora Witolda Klingera. Wzbogacają one niewątpliwie skromny ocalały dorobek artysty, ale także przedstawiają w artystyczny sposób wybitnych przedstawicieli świata nauki. Ciekawe, jakie prace Eugeniusza Briańskiego jeszcze mogą się kryć w zbiorach prywatnych w Poznaniu. Przecież musiały one powstawać w pracowni przy ul. Chełmońskiego, bez względu na proces sądowy, który wytoczono artyście i tragedię rodzinną (śmierć żony – 5 czerwca 1937 r.).

W końcu los uśmiechnął się i do Eugeniusza Briańskiego. W połowie lat 70. został odnaleziony w Związku Radzieckim i w marcu 1976 r. sprowadzony do Poznania, gdzie pozostał do śmierci – 16 listopada 1980 r. Ks. prof. Jerzy Klinger nie doczekał jego powrotu z ZSRR, zmarł 3 lutego 1976 r. Od 1962 nie żył też prof. Witold Klinger, od 1963 r. – matka artysty, Katarzyna. Z jego pokolenia żyła jeszcze siostra Waleria, która pewnie mu opowiadała o losach osiadłych w Poznaniu białych Rosjan, które też nie były proste ani w czasie II wojnie światowej, ani po niej. Eugeniusz Briański po powrocie do Poznania nawiązał kontakt z przedwojennymi kolegami z Wydziału Sztuk Pięknych Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie, którzy po różnych perypetiach osiedli w Polsce – z Barbarą i Ildefonsem Houwaltami w Poznaniu, z Aldoną Romanowiczową, Ireną Kołoszyńską, Muszką Gintyłłówną w Warszawie, z Adolfem Popławskim w Sopocie.






**Portrety Witolda Klingera i jego syna Jerzego, namalowane przez Eugeniusza Briańskiego w 1937 r.**

Okazało się, że długie bezowocne poszukiwanie śladów zmarłego 35 lat temu artysty Eugeniusza Briańskiego, łącznie z utratą jakiejkolwiek nadziei na nowy trop, miało sens i mam nadzieję, że portrety Witolda i Jerzego Klingerów nie są ostatnimi odnalezionymi jego pracami.

**Helena Głogowska**

# *Borus – patriarcha białowieskich żubrów*

**Żubry, tak jak i ludzie, mają swoje charaktery, przyzwyczajenia, upodobania – mawiał mój ojciec, który przepracował wiele lat w Ośrodku Hodowli Żubrów Białowieskiego Parku Narodowego. Wśród nich zdarzają się prawdziwi arystokraci – dumni, wojowniczy, lubiący dominować nad innymi. Trwają oni we wspomnieniach tych, którzy ich znali, a także w opowieściach następnych pokoleń, zafascynowanych zwierzęcym królem puszczy.**

Ojciec w zimowe wieczory wspominał czasem Borusa, którego nazywał patriarchą żubrzego rodu w Puszczy Białowieskiej. Mówił żartobliwie, że gdyby Borus przyszedł na świat trzy lata wcześniej, byliby rówieśnikami.

Borus to nieco uproszczone imię tego żubra. W księgach rodowodowych żubrów samiec zapisany jest jako Borusse.

Borus przyszedł na świat 29 września 1927 roku daleko poza Puszczą Białowieską, w hodowli hrabiego Arnima w Boitzenburgu (Niemcy). Jego ojcem był Schatten, mający domieszkę krwi kaukaskiej, a matką – Bettina, pochodzenia białowieskiego. 29 lutego 1929 roku Borus trafił do hamburskiego „Tierparadies” Karola Hagen-

becka, gdzie został zakupiony przez polskie Ministerstwo Rolnictwa i już 3 kwietnia 1929 roku stał się mieszkańcem ZOO w Warszawie. Po upływie ponad pięciu miesięcy, a dokładnie 19 września 1929 roku, przewieziony został do nowo utworzonego rezerwatu żubrzego w Puszczy Białowieskiej. Razem z Borusem przywieziono także mieszańca – żubrobizona Kobolda, który był rówieśnikiem Borusa. W następnych latach sprowadzano do Białowieży kolejne żubry, które zapoczątkowały żmudny i długotrwały proces przywracania tego gatunku Puszczy.

Sprowadzane do Białowieży żubry od razu stały się atrakcją turystyczną numer jeden Puszczy Białowieskiej. Rezerwat z żubrami był udostępniany turystom, więc wszyscy mogli bez przeszkód je oglądać. O białowieskiej hodowli zaczęły się ukazywać publikacje prasowe. Częstym „gościem" na łamach gazet i czasopism był Borus. Z zachwytem pisano o jego potężnej sylwetce, o nadzwyczajnej sile, którą dysponował. Borus potrafił bowiem wyrwać z korzeniami kilkudziesięcioletnie drzewo, by osmykać jego gałązki z liści bądź zjeść rosnącą na nich jemiołę, którą sobie upatrzył.



Fot. Jan Jerzy Karpiński

**Moment wypuszczenia przywiezionych do Białowieży żubra Borusa (stoi przodem) i żubrobizona Kobolda. 19 września 1929 r.**

Należy tu wyjaśnić, że w owym czasie żubrów w Puszczy Białowieskiej nie było w ogóle. Przed wybuchem pierwszej wojny światowej stado liczyło wprawdzie około 730 sztuk (źródła rosyjskie podają nawet liczbę 785 sztuk), ale w czasie działań wojennych zostało wybite niemal doszczętnie. Nieliczne sztuki, którym udało się przeżyć wojnę, wytępili kłusownicy – ostatni żubr padł w kwietniu 1919 roku. Przez następne dziesięć lat Puszcza pozostawała bez żubra.

„Byłem w gościnie u żubrów – relacjonował w jednym z kwietniowych numerów z 1935 roku dziennikarz dwutygodnika „Ośrodki Pracy". – Te od dawna już przygotowują się do nowego sezonu. Potężny byk „Borus" z głową jak góra, łypie złowrogo przekrwionem okiem, czochrając się olbrzymiem cielskiem o pień sosny. Całe płaty kłaków złażą mu z przychudzonych nieco od zimowego postu zapadłych boków. W ślad za wodzem podobnie wiosenną toaletę robi stadko żubrzyc, żubrów i żubrzątek".

Borus był zwierzęciem mającym skłonność do przejawiania zachowań agresywnych wobec człowieka. Doświadczyła tego m.in. Erna Mohr, archiwistka Międzynarodowego Towarzystwa Ochrony Żubrów, która w październiku 1934 roku odbyła wycieczkę do Białowieży w grupie kilku członków MTOŻ. „Łowiec Polski" (nr 17/1935) zamieścił jej relację z tej wizyty, w której czytamy: „Tak jak większość samców, jest Borusse dla ludzi niezupełnie bezpieczny. W poprzednim roku zachowywał się wobec nas tak energicznie, że musieliśmy schronić się przed nim – przesadzając ochronny płot z belek. Tego roku był bardziej uprzejmy i prawie wcale nie zwracał uwagi na nas, dwunożne stworzenia. W stosunku do cieląt jest w ogóle bardzo łagodny i bawi się z każdem młodem, które ma odwagę zaczepić potężnego ojca. Z półtorarocznym Pukiem mocował się i przepierał tak samo łagodnie, jak odsunął Pumę, gdy jako „przeszkoda" stanęła mu na drodze".

W 1935 roku Polska zakupiła w Szwecji za 100 tysięcy koron żubra rozpłodowego Björnsona. Przyszedł on na świat 8 maja 1929 roku w sztokholmskim ZOO. Jego ojcem był Bill, a matką Bilma, która urodziła się w 1913 roku w Puszczy Białowieskiej, a trzy lata później trafiła do Szwecji. 21 marca 1935 roku Björnson został przywieziony do Białowieży.

Przybysz ze Szwecji, prędzej czy później, musiał się zetknąć oko w oko z Borusem. Nikt jednak nie spodziewał się, że ich spotkanie będzie mieć tragiczny finał. Po niecałych czterech miesiącach od przybycia do Białowieży, Björnsona przeprowadzono do nowej zagrody. Wkrótce miano mu przydzielić żubrzycę, był to akurat okres rui u tych zwierząt. Zagroda Björnsona sąsiadowała z zagrodą, w której przebywał Borus. Pomieszczenia te oddzielały dwie linie mocnego parkanu, pomiędzy którymi był korytarz.

W nocy z 16 na 17 lipca 1935 roku nad Puszczą Białowieską przeszła sil-

na burza. Wichura łamała całe drzewa, na ziemię padały odłamane konary. W pewnym momencie piorun roztrzaskał potężny świerk, łamiąc go wpół. Odłamana część upadła na parkany, oddzielające zagrody z Borusem i Björnsonem. Przęsła nie wytrzymały i powstała wyrwa w ogrodzeniach. Borus ruszył w jej stronę i już po chwili był w zagrodzie Björnsona. Ten wprawdzie uciekł w głąb zagrody, ale Borus podążył za swoim rywalem, którego dotąd nie znał. Pomiędzy samcami rozpoczęła się walka.

Kierownik Parku, Jan Jerzy Karpiński, tak ją opisał: „Z pochylonymi ku ziemi łbami siłowali się ze sobą sapiąc i bijąc wściekle ogonami po zadach. Z pysków ściekała piana, buchała para ze zlanych strugami wody rozgrzanych cielsk. Chwilami odstępowali od siebie, by z większą siłą uderzyć. Ścierał się róg o róg, trzeszczały czerepy, bryzgała na karki spieniona krew".

Dyżurujący w rezerwacie strażnicy zauważyli wyrwę w ogrodzeniu dopiero podczas obchodu zagród. W świetle trzymanych w ręku przenośnych latarni dostrzegli dwa rozwścieczone, walczące ze sobą żubry. Jeden ze strażników wyciągnął służbową broń i oddał kilka strzałów w powietrze ponad głowami walczących byków. Bez spodziewanego rezultatu. Żubry nie zareagowały także na ich gromkie okrzyki. Mężczyźni wpadli na inny pomysł. Nałamali gałązek świerkowych i podpaliwszy igliwie, zaczęli miotać te płonące pochodnie w kierunku zwierząt. Jednak bój trwał nadal. Powiadomione o całym zdarzeniu kierownictwo Parku pospiesznie sprowadziło miejscową straż pożarową. Strażacy polewali walczących samców silnymi strumieniami wody, lecz te nie zwróciły nawet na to uwagi. Na nic zdało się też wystrzeliwanie w niebo rac czy podpalenie siarki, której smród szybko rozszedł się po całej zagrodzie.

Czas płynął, siły u byków były równe i zdawało się, że żaden z nich nie zostanie zwycięzcą. W końcu o losie Björnsona zadecydował przypadek. Odstępując pod naporem rozjuszonego przeciwnika, Björnson trafił tylną nogą w rozszczepiony pień i nie mógł jej w żaden sposób wyciągnąć. Borus wykorzystał sprzyjającą mu sytuację i odskoczywszy w bok, z nową siłą rzucił się na swego wroga. Uwięziona noga Björnsona nie pozwalała mu na przyjęcie odpowiedniej pozycji, w końcu nie wytrzymała i się złamała. Borus przebił rogami bok Björnsona, który zaczął broczyć krwią, tracąc jednocześnie równowagę. Borus przestał atakować, patrzył spode łba na swego przeciwnika, obchodził go wkoło. W końcu uznał, że jest zwycięzcą i powrócił do swojej zagrody.

Odniesione przez Björnsona obrażenia były poważne i nie dawały mu szans na przeżycie. Po naradach zdecydowano, że żubra należy dobić. Uczyniono to 18 lipca 1935 roku.

Walka żubrów trwała około dwóch godzin, ale z czasem zaczęła się dziwnie „wydłużać". Już w początku 1936 roku łódzki dziennik „Echo" podawał, że walka trwała 11 godzin. Z kolei radziecki pisarz Witalij Wolski, który w lecie 1940 roku przebywał w Białowieży i dużo słyszał od mieszkańców o słynnej walce, napisał w swojej książce „Rodnoj kraj" (Minsk 1964), że Björnson padł w dziewiątej godzinie walki. Ja sam, oprowadzając w latach siedemdziesiątych i osiemdziesiątych wycieczki po Puszczy Białowieskiej, wielokrotnie słyszałem od niektórych swoich starszych kolegów, że walka trwała… dwie doby.

Skóra z Björnsona została zdjęta. Preparator Jerzy Gundłach wykonał z niej eksponat, który trafił do muzeum w Białowieży, stanowiąc przez długie lata okrasę przyrodniczych zbiorów tej placówki. Obecnie zdobi salę audiowizualną Białowieskiego Parku Narodowego.



Fot. Adolf Rząśnicki

**Erna Mohr w pełnej już przyjaźni z Borusem. Wrzesień 1937 r.**



Fot. Tadeusz Sumiński

**Björnson (stoi) na ekspozycji muzealnej. Widokówka**

Historia śmiertelnej walki Borusa z Björnsonem bardzo szybko przedostała się na łamy prasy codziennej. O Borusie pisano raczej w chłodnym tonie. Przykładowo – „Kurjer Bydgoski” w sierpniu 1937 roku napisał: „Wśród stadka żubrzego zwraca na siebie powszechną uwagę potężny byk „Borus”. Ma on na sumieniu, już w czasie swego pobytu w Puszczy Białowieskiej, 5-letniego samca, którego dosłownie zmiażdżył podczas walki, oraz kilkumiesięczne cielę. Aby do podobnych tragicznych spotkań nie dopuścić, dorastające samce izolowane są od groźnego przeciwnika”.

Wkrótce nastała II wojna światowa. W 1943 roku Niemcy wypuścili wszystkie żubry z zagród na wolność. Borus w tym czasie miał jakoby dokonać bohaterskiego czynu, napadając na niemiecki oddział, który wyruszył do puszczy, by stoczyć bój z partyzantami. Przebieg tego wydarzenia, opowiedzianego przez białowieskich strażników, odnotował na łamach swej książki wspomniany już Witalij Wolski.

Czytamy: „W nocy wybuchła panika, gdyż [niemieckim] strażnikom wydało się, że ktoś okrążył obóz. Oczywiście myślano o partyzantach. Okazało się, że na polankę, gdzie rozłożono obóz, wyszło stado żubrów, w którym były samice i cielęta. Niemcy zaczęli strzelać, kilka żubrów zabili, niektóre ranili. Przewodnikiem stada okazał się Borus. Rzucił się on na przedzie stada na obozowisko. Wszystko w momencie obróciło się w perzynę. Borus zbił z nóg dowódcę karnego oddziału, przygniótł go głową do ziemi, deptał kopytami, następnie podrzucał zmasakrowane ciało faszysty do góry. Kilka razy podchodził do martwego już Niemca, by się upewnić, że go pokonał”.

Ile w tym opisie jest prawdy, a ile fikcji literackiej – dzisiaj tego już nie da się ustalić.

Żubry, po wypuszczeniu ich przez Niemców ze zwierzyńca, trzymały się w pobliżu. Po przejściu frontu, w sierpniu 1944 roku, zostały one z powrotem zapędzone do rezerwatu. Nie doliczono się 11 sztuk, uznając je za

## *Makieta pałacu gotowa*

Roman Malinowski z Narewki (powiat hajnowski) najpierw robił z zapałek makiety pięknych wiejskich drewnianych domów. Pierwszą z nich wykonał w 2008 roku. Pasjonat ma wiele ciekawych pomysłów. Wykonał makietę m.in. drewnianego kościoła w Narewce, który spłonął w lipcu 1965 roku. Świątynię wzniesiono w 1914 roku, służyła więc wiernym przez pół wieku.

Pan Roman wykonał miniatury wielu drewnianych domów, w tym również piętrowych, o bardzo ciekawej architekturze. Poświęcił na to wiele czasu. Cierpliwości i wytrwałości można mu pozazdrościć. Drugim jego hobby jest wędkarstwo. Przy wędkowaniu wypoczywa.

Od połowy września 2013 roku „budował” z listewek ze sklejki z drzew liściastych dużą makietę białowieskiego pałacu, w którym przebywali carowie, gdy przyjeżdżali na polowania w Puszczy Białowieskiej. Pracę przy ostatniej makiecie zakończył – tak jak planował – 15 października br. Chce wypożyczyć ją do sali wystawienniczej dyrektor Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej w Hajnówce.

Teraz Roman Malinowski ma zamiar wykonać dużą makietę cerkwi parafialnej w Narewce.

Makiety ciekawych pod względem architektonicznym budowli, skonstruowanych przez pana Romana, można obejrzeć w jego domu przy ulicy Kolejowej. Niektóre były eksponowane m.in. w miejscowej galerii malarstwa i rzeźby im. Tamary Sołoniewicz.

**Jan Ciełuszecki**



Fot. Jan Ciełuszecki



zabite. W tej liczbie znalazł się także niespełna 17-letni Borus. Później wyjaśniło się, że zastrzelił go w połowie lipca 1944 roku jeden z oficerów radzieckich, przy czym stało się to dokładnie w 9. rocznicę stoczenia walki z Björnsonem.

O tym smutnym fakcie wspomina w swej książce „W marszu i boju" (Warszawa 1963) generał Paweł Batow, dowódca 65 Armii, wchodzącej w skład 2. Frontu Białoruskiego: „Zdarzył się (…) jeden przykry wypadek. Dowódca brygady artylerii pułkownik Prochorow zabił żubra. Dowódca frontu zażądał, by pułkownika oddać pod sąd Trybunału Wojskowego. Był to odważny, zdolny artylerzysta i szkoda mi było stracić takiego oficera. Uczciwie przyznaję, że wprowadziłem w błąd Rokossowskiego. Przyrzekłem mu, że wytoczę śledztwo w tej sprawie, faktycznie zaś chciałem po prostu grać na zwlokę. Minęło kilka dni. Brygada artylerii Prochorowa wyróżniła się w walkach i wówczas udało mi się ubłagać dowódcę frontu, by poprzestał na upomnieniu".

Generał wprawdzie nie wymienił imienia zabitego żubra, pewnie go i nie znał, ale z relacji strażników żubrowych wynikało niezbicie, że to był właśnie Borus. Tak też twierdził preparator Mikołaj Buszko, któremu radzieckie dowództwo wojskowe powierzyło spreparowanie skóry zabitego żubra i wykonanie z niej eksponatu dla muzeum. Buszko wspominał później, że po dokonaniu chemicznej obróbki skóry rozłożył ją na ławce przed muzeum w celu przesuszenia. Gdy po jakimś czasie poszedł sprawdzić, czy skóra jest gotowa, na ławce już jej nie było. Sprawcy kradzieży nie udało się ustalić.

Borus bardzo się przysłużył do rozwoju białowieskiej hodowli, został ojcem aż 24 żubrów. Pierwszy jego syn – byczek Puhacz, którego w Białowieży nazywano Bisurmaninem Białowieskim, przyszedł na świat 23 listopada 1930 roku. Matką Puhacza była Biserta, z którą Borus miał jeszcze: Pulpę, Pumę, Pustą, Purytanina, Pulchnego i Pużankę. Z żubrzycą Biscayą spłodził Pustułkę, Pustelnicę, Puka, Pupila, Pupilkę i Pustotę. Miał też potomstwo ze swoimi córkami, z Pupilką – Pulę, Purgę i Puba, z Pustotą – Puca, z Pumą – Punarną (Ponarną). Pozostałe sześć sztuk spłodził z samicami nieczystej rasy, z Faworytą – Hurona, Wrzoskę, Burzę i Wiochnę; ze Stolze – Popałę i Mayę.

Sylwetkę Borusa odnajdziemy na licznych zdjęciach autorstwa Jana Jerzego Karpińskiego i Stanisława Łuniewskiego, ilustrujących przedwojenne i tużpowojenne wydania o Puszczy Białowieskiej. Żubr ten trafił także na widokówki, a polski malarz Eugeniusz Kazimirowski uwiecznił go w grafice.

**Piotr Bajko** ■

***Васіль Петручук***

# *Крышынкі*

***72**. **Прароцкая дарога***. У Елянцы, дзе я служыў парабкам у гады нямецкай акупацыі, жыў нейкі Сахар. Быў (і застаўся ім да канца) вельмі талевітым чалавекам. Рабіў усё сам, ад іголкі да плуга. Меў кузню, у якой выконваў усе прадметы патрэбныя ў гаспадарцы, не толькі для сябе, але і для ўсіх жыхароў. Сахар і ўся яго сям'я былі і ёсць баптыстамі, што стала адной з прычын ўзнікнення прароцкай дарогі.

Сям'я Сахара жыла, працавала і мучылася як шмат іншых у беларускіх вёсках, з пясчанымі палямі, саламянымі стрэхамі; у вёсцы, дзе жылі багатыя і бедныя, а і зусім беднякі. У Елянцы, падобна як і ўсюды, былі людзі добрыя і кепскія. Выводзіліся адсюль папы і бандыты ды папы бандыты; жывуць там людзі спакойныя і добрыя.

Сахарова сям'я налічвала некалькі чалавек. Памятаю Пецю, які аказаўся быць яшчэ больш таленавітым чым бацька, і – здаецца – Міцю, якога забіў пярун у лесе пад сасной.

Сахар, вельмі працавіты чалавек, удадатку адораны незвычайнай памяццю і да канца адданы Евангеллю ды веры, ведаў на памяць хіба ўсё. Тыя весткі і безупыннае іх паглыблянне спрычыніліся да таго, што запакутаваў ён псіхічнай хваробай. Находзіла на яго штосьці такое, што стаў выраблячь дзіўныя, да нічога непрыдатныя скрынкі і – нягледзячы на пару года – хадзіў басяком па вёсках і прапаведаваў прароцтвы. Выпісваў на сценах дамоў урыўкі з Евангелля і ўласныя думкі. Да сёння памятаю яго надпіс на кузні ў Грабаўцы: «Не праклінайце праклятымі словамі». Былі такія, што смяяліся з ягоных цудацтваў, але былі і такія, хто бачыў у ім святога.

Падчас акупацыі Сахар правярцеў сцены сваёй хаціны ды клыні і папрацягваў па ўсім падворку ніткі і шнуркі. Была гэта телефанічная сувязь з Масквой – са Сталіным. Сахар аб'явіў сябе царом Беларусі і прыняў мянушку «Агнёў». Казаў: «Я – цар Беларусі, Агнёў. Разам са Сталіным вызвалім Беларусь». Усё хадзіў і прапаведаваў. Калі яму «адпускала», браўся зноў за гаспадарку і гаспадарыў хоць бы што. Немцы не звярталі на яго ўвагі, вядома – дурань.

Восенню 1943 года Сахару зноў палепшылася. Запрог ён каня ў плуг уласнай канструкцыі (быў гэта плуг, за якім не трэба было хадзіць), дачапіў да яго ўласнай работы вазок, сеў на сваю павозку і паехаў у поле араць «чарнуху». Калі ехаў па

дарозе ў бок Грабаўца, стрэльнула яму ў галаву, каб пераараць дарогу ўпоперак усіх палеткаў са ўсходу на захад – для таго каб немцы мелі кудою ўцякаць, калі не змесцяцца на звычайным гасцінцы, калі іх будзе гнаць савецкае войска. Завярнуў коней і далей сунуўся просценька наперад. Рухаючыся ў напрамку заходнім адвальваў баразну на адзін бок, вяртаючыся на ўсход – на другі. Вось і дарога гатовая. Усюды і ўсім распавядаў, што ў 1944 годзе будуць уцякаць па ёй немцы.

Даведаліся аб тым урэшце тыя, для каго гэтая дарога была прызначана. Аднойчы зімовым днём прыехалі з Кляшчэль на санях два жандары. Сахар жыў непадалёк солтыса; выйшаў на вуліцу босы, хаця снегу было за калена і трымаўся моцны мароз. Сахар хацеў даведацца, чаго немцы шукаюць. Тыя дадумаліся, што маюць перад сабою будаўніка дарогі і ворага пераможнага тысячагадовага Рэйха; падышлі бліжэй і пачалі без слова таўчы яго прыкладамі вінтовак, а той, перакулены на снег, гаварыў: «Амін, хвала Табе, Госпадзе! Яны б'юць мяне, але ўсё роўна будуць уцякаць па дарозе, якую я ім выараў! Прамоў ім, Госпадзе, да розуму, каб не беглі яны праз нашае сяло ў Кляшчэлі, толькі па той дарозе, што я ім вызначыў. Карацейшая яна, і хутчэй дабягуць да Германіі. А гэтым катам прамоў да розуму, каб перасталі біць, бо мне ўжо рэбры і галава баляць так, што марозу не чую!» Жандары нічога не разумелі з яго мовы; не ведалі нават рускай мовы, а Сахар пераплятаў яе з дыялектам, які ўжывалі людзі з вёскі і карыстаюцца ім да сёння. Жандары палічылі, што наробяць сабе сораму, калі застрэляць хворага чалавека на вачах усяе вёскі, таму толькі скатавалі яго салідна за пашыранне варожай прапаганды і пайшлі да солтыса напіцца самагонкі.

Пасля гэтых пабояў Сахару пагоршылася; пачаў раздумваць над новым відам ружжа. Вучыў людзей, як з сасны зрабіць гармату; для гэтай мэты трэба было яе адпаведна падрыхтаваць, пасля навезці з лесу камянёў, нагнуць дрэва, прывязаць да яго вяршка камень і раптоўна яго пусціць. Прастуючыся, сасна мела шпурнуць камень на адпаведную адлегласць. Умовай быў выбар добрай сасны і вызначэнне кута яе нахілення. Ніхто, аднак, вядома, не пераняў ад Сахара баявога духу; ніхто не спрабаваў вырабляць гармат з сасон.

Час ішоў і надышоў ліпень 1944 года. Як немцы давалі драпака па дарозе зробленай Сахарам! Неяк так спрытна яе выараў, што колы аўтамабіляў траплялі проста ў выараныя барозны. Вось і прарок!

*(Працяг будзе)*

# *Успаміны з 1997 г.*

***1.*** **Польшча.** У першай палове 1997 г. прэм’ер-міністрам урада Польшчы быў Уладзімеж Цімамашэвіч, які кіраваў урадам створаным з Польскай Сялянскай Партыі (PSL) і Сацыялдэмакратыі Польшчы з **7 лютага 1996 г.** Пры ім паменшылася беспрацоўе ў Польшчы з 13,1% у снежні 1996 г. да 11,6% у чэрвені 1997 г. і паменшылася інфляцыя з 19,9% у 1996 г да 14,9% у 1997 г. Сярэдні заробак з 873 зл. у 1996 годзе павялічыўся ў 1997 г. да 1061 злотых, а курс амерыканскага долара хістаўся ў 1997 г. ад 3,51 да 3,41 зл. за долар. Аднак натуральны прырост насельніцтва паменшыўся з 1,1 праміля ў 1996 да 0,9 праміля ў 1997 г.

**1 студзення** Скэнпэ атрымала зноў гарадскія правы.

**6 лютага** Сейм Польшчы прыняў закон аб паўсюдным страхаванні здароўя і стварыў у дзяржаве 16 рэгіянальных Кас Хворых.

**18 сакавіка** вярнуўся з Чыкага мой сын Георгій. Быў ён там ад лістапада 1989 г. Мы з жонкай Нінай сустрэлі яго на варшаўскім аэрадроме. Адразу пайшоў ён на працу ў Вашаўскім універсітэце ў інфарматыцы. Універсітэт не згадзіўся прадоўжыць яму бясплатны водпуск і ён мусіў вярнуцца на працу. Час бясплатнага водпуску прылічылі яму аднак да стажу працы. Працуе ў Варшаўскім універсітэце ён да сённяшняга дня.

**1 красавіка** Варшаўская Фабрыка Аўтамашын (FSO) пачала прадукцыю аўтамашыны Паланез Ату.

**2 красавіка** Заканадаўчы Сход прыняў Канстытуцыю Польшчы, над якой працавалі ад 1989 года. Згодна з ёй у Польшчы далей былі Прэзідэнт Польшчы, савет міністраў, Сейм і Сенат, суды і трыбуналы.

**10 красавіка** быў прыняты ЭнергетычныЗакон.

**11 красавіка** быў прыняты Сеймам закон праверачны для працаўнікоў улады, ці яны не былі тайнымі агентамі камуністычнай бяспекі.

**У красавіку** выкупіў я 4 месцы на два тыдні ў ліпені ў доме адпачынку ў Марской Крыніцы ля Балтыйскага мора для мяне, для дачкі Ірэны і для яе двух сыноў. Мая жонка не захацела з намі ехаць.

**5 мая** ў чыгуначнай катастрофе ў Рэптове недалёка Шчацінскага Старгарду згінула12 асоб, а 36 было параненых.

**25 мая** прайшоў рэферэндум на тэму прыняцця Канстытуцыі Польшчы. У рэферэндуме прыняло ўдзел 42,86 % грамадзян. За прыняцце канстытуцыі прагаласавала 52,71 % галасуючых.

**31 мая** пачаў у Польшчы паломніцтва рымскі папа Ян Павел ІІ. Прыляцеў ён ва Уроцлаў, дзе яго сустрэў

прэзідэнт Польшчы А. Кваснеўскі. Закончыў паломніцтва 10 чэрвеня.

**6 чэрвеня** Сейм прыняў новы крымінальны кодэкс, які ліквідаваў смяротную кару.

**18** чэрвеня прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі падпісаў праверачны закон, прыняты 11 красавіка ў Сейме.

## Беларусь

Прыняцце пад націскам прадстаўнікоў урада Расіі сфальшаванага прэзідэнтам А. Лукашэнкам 24 лістападз 1996 г. рэферэндума, ліквідацыя Вярхоўнага Савета Беларусі і стварэнне выдуманых А. Лукашэнкам дзвюх палат парламента адкрылі яму дарогу да прэзідэнцкай дыктатуры. Пры выбарах у 1994 г. у прэзідэнты А. Лукашэнка абяцаў захоўваць законы, гарантаваў справядлівы суд, барацьбу з карупцыяй і што не пазволіць на дыскрымінацыю прыватнай уласнасці. Калі стаў прэзідэнтам, змяніў свае погляды. Так спадабалася яму ўлада прэзідэнта, што пачаў старацца, каб быць вечна прэзідэнтам Беларусі. Адчуў, што збудаваць прававую дзяржаву ён не зможа. І замест справядлівай, устойлівай, цывілізаванай дзяржавы, якую ўсе б узнавалі і шанавалі, пачаў тварыць адзін моцны ствол выканаўчай улады, якая задушыла судовую і заканадаўчую. Стварыў аўтарытарную дзяржаву. Ён, прыкрываючыся сфальшаванаю ім ,,воляй народа" аб'явіў інтарэсы наменклатуры і бюракратыі дзяржаўнымі. Стварыў выгадную для сябе Канстытуцыю, адсунуў ад улады ў парламенце апазіцыю, не дапускае, каб пры выбарах прымала ўдзел у лічэнні галасоў апазіцыя і кіруе дзяржаваю дэкрэтамі. Апзіцыю не толькі адсунуў ад улады, ды пачаў яе пераследаваць і нейкіх прадстаўнікоў апазіцыі загнаў у турму. Не турбуецца тым, што яго парламента, яго выбараў не прызнае ні адна заходняя дзяржава, і што накладваюць на Беларусь санкцыі. Распараджэнняў прэзідэнта, яго ўказаў і дэкрэтаў ніхто ў дзяржаве не можа адмяніць, нават Канстытуцыйны суд.

Урад А. Лукашэнкі існуе дзякуючы вялікай дапамозе РФ, якая прадавала і прадае Беларусі па нізкай цане нафту і іншыя прадукты і з'яўляецца выгадным рынкам для беларускай прадукцыі. Ператвораныя прадукты з расійскай таннай нафты Беларусь прадае заходнім дзяржавам за долары. Паводле беларускай статытыкі, у беларускай эканоміцы быў у 1997 годзе прырост 11,9% прадукцыі. Ці гэта праўда? Гэтыя даныя могуць быць непраўдзівыя, бо пазней у 2011 годзе, калі ў беларускіх абменніках не было долараў, а магазіны ў Беларусі былі пустыя, па беларускай статыстыцы ў беларускай гаспадарцы быў вялікі прырост падукцыі. Па беларускай статыстыцы ў студзені 1997 г. сярэдні заробак быў 1 526 205 рублёў, у чэрвені 1997 г. – 2 187 892 рублёў, а ў снежні 1997 г. – 3 277 595 рублёў, а курс дола на канец 1997 г. быў 30 740 рублёў. То за сярэдні заробак грамадзянін Беларусі мог купіць на канец 1997 года толькі 106 додараў. А працаўнікі ў вёсках мелі сярэдні заробак 1 270 026 рублёў і маглі купіць толькі 41,3 долара на канец года за свой сярэдні месячны заробак.

**2 красавіка** прайшла ўрачыстая цырымонія падпісання Дагавору аб стварэнні Саюза Расіі і Беларусі ва Уладзімірскай зале Вялікага Крамлёўскага Палацу між прэзідэнтам РФ Барысам Ельцыным і прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Быў створаны Вышэйшы савет і выканаўчы камітэт Саюза. Згодна з Саюзам, не было між РФ і Беларуссю мытнай граніцы, быў свабодны пераход граніцы грамадзянамі і мелі яны роўныя правы ў Расіі і Беларусі. Саюз аказаўся мёртванароджаным, выгадным для Беларусі. Прэзідэнт А.Лукашэнкаа думаў, што дзякуючы інтэграцыі стане прэзідэнтам аб'яднанай дзяржавы. Прадстаўнікі ўрада РФ мелі надзею, што дзякуючы Саюзу дойдзе да інтэграцыі Расіі і Беларусі, а фактычна РФ стала субсідзіраваць Беларусь і дзякуючы гэтаму А. Лукашэнка з'яўляецца так доўга прэзідэнтам Беларусі. Кіраўнікі ўрада РФ згаджаюцца субсідзіраваць Беларусь , бо не хочуць каб змянілася яна ў ворага, як Украіна і каб не захацела ўвайсці ў Еўрасаюз і НАТА.

**23 мая** быў падпісаны Устаў Саюза Беларусі і Расіі.

## Расія

**1 студзеня** ўступіў у сілу новы крымінальны кодэкс Расійскай Федэрацыі, які караў за парушэнне аўтарскага права.

**27 студзеня** ў Чачні прайшлі прэзідэнцкія і парламенцкія выбары пад кантролем незаконных узброеных сіл партызан, нязгодна з законамі Расійскай Федэрацыі. У выбарах не бралі ўдзелу больш чым 400 тыс. жыхароў пакінуўшых Чачню і ,,антыдудаеўскія" сілы. Аднак прадстаўнік місіі АБСЕ Тым Гульдэман заявіў, што выбары былі ,,законнымі і дэмакратычнымі". Прэзідэнтам Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя з зарэгістраваных 16 кандыдатаў быў выбраны Аслан Масхадаў, які атрымаў 59,3% галасоў (больш чым 228 тысяч). Тэрарыст Шаміль Басаеў атрымаў 23,3 % галасоў.

**10 лютага** быў падпісаны Мемарандум паміж UNESCO і ўрадам РФ аб стварэнні ў Маскве Сусветнага тэхналагічнага інстытута UNESCO.

**10 лютага** наступіў старт касмічнага карабля Саюз ТМ-25 з касманаўтамі Васілём Цыбліявым, Аляксандрам Лазуркіным і немцам Р. Эвальдам. Прыстыкаваліся яны да касмічнай станцыі ,,Мір".

**17 лютага** наступіў выбух метана на шахце ,,Кулярскай" у Чалябінскай вобласці, ад якога згінулі 4 асобы.

**23 лютага** на расійскай касмічнай станцыі ,,Мір", на якой былі амерыканскі і нямецкі касманаўты і чатыры расійскіх касманаўтаў, выбух пажар. З-за задымлення касманаўты мусілі накласці маскі, а пасля рэспіратары. Пажар хутка пагасілі.

**2 сакавіка** прызямліўся касмічны карабель Саюз ТМ-24 з касманаўтамі Вячаславам Карзуном, Аляксандрам Келерым і немцам, які прыляцеў на Саюзе ТМ-25.

**4 сакавіка** першы раз на новым касмадроме Свабодны выляцеў у космас спутнік Зямлі „Зея" на ракеце „Старт 1".

**17 сакавіка** прэзідэнт Барыс Ельцын назначыў Барыса Нямцова і Анатолія Чубайса першымі намеснікамі старшыні ўрада. Анатолія Чубайса зрабіў таксама міністрам фінансаў. Б. Беразоўскі, які даказваў, што алігархі павінны кіраваць урадам, быў паволі адсунуты ад ўлады.

**18 сакавіка** ў катастрофе самалёта Ан-24 ля горада Чэркеска згінула 50 асоб.

**1 красавіка** прэзідэнт Б. Ельцын падпісаў указ, што ўсе расійскія чыноўнікі павінны ездзіць на расійскіх аўтамабілях.

**27 сакавіка** РФ узяў ад МВФ другую пазыку на 800 мільёнаў долараў на перабудову вугальнай прамысловасці.

**23 красавіка** ад выбуху на чыгуначным вакзале ў горадзе Армавір ў Краснадарскім краі згінула 3 асобы, а 12 было параненых.

**23 красавіка** Б.Ельцын і кіраўнік Кітайскай Народнай Рэсублікі Цзян Цзэмінь падпісалі дэкларацыю аб многапалярным міры і аб фармаванні новага сусветнага парадку. Яны ўстанавілі доўгачасавыя міждзяржаўныя адносіны новага тыпу, не накіраваныя супраць трэціх дзяржаў. Падкрэслівалася непрыняцце імі гегеманізму і палітыкі з пазіцыі сілы (намёк на ЗША). Выказвалі турботу ў сувязі з расшырэннем і ўзмацненнем Блокаў (намёк на НАТА).

**12 мая** Б. Ельцын і прэзідэнт Чачні Аслан Масхадаў у Маскве падпісалі „Дагавор аб міры і аб сумесных адносінах паміж Расійскай Федэрацыяй і Чачэнскай Рэспублікай Ічкерыяй". У Дагавары не было пункта, што РФ прызнае суверэнітэт Чачні. Тэкст дакумента быў напісаны на паўстаронцы паперы і складаўся з пяці пунктаў.

**27 мая** Б. Ельцын і Генеральны сакратар НАТА Хав'ер Салана і кіраўнікі дзяржаў НАТА падпісалі ў Парыжы асноватворны акт аб ўзаемных адносінах, супрацоўніцтве і бяспецы паміж НАТА і Расійскай Федэрацыяй.

**28 мая** паўстала ў Парыжы першая Рада Расія – НАТА.

**28 мая** паміж РФ і Украінай падпісалі ў Кіеве дагавор аб параметрах падзелу Чарнаморскага флота. Была падпісана згода аб статусе і ўмовах знаходжання Чарнаморскага флота РФ на тэрыторыі Украіны і згода аб узаемных разліках звязаных з падзелам Чарнаморскага флота на тэрыторыі Украіны. Украінскі парламент ратыфікаваў гэтыя дакументы 24 сакавіка 1999 г., расійскі – 18 чэрвеня 1999 г.

**31 мая** ў Кіеве Б. Ельцын і прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падпісалі Дагавор аб Дружбе, супрацоўніцтве і партнёрстве паміж РФ і Украінай. Вярхоўная Рада Украіны ратыфікавала гэты дагавор 14 студзеня 1998 г., а Дзяржаўная Дума РФ – 25 студзеня 1998 г. Аграніčэннем для Украіны ў Дагаворы, які прыняла Украіна, было абавязацельства не падпісваць дагавораў з іншымі дзяржавамі супраць Расіі і не аддаваць сваёй тэрыторыі для выкарыстання яе супраць РФ.

**20-22** чэрвеня прайшла ў Дэнверы сустрэча кіраўнікоў васьмі дзяржаў і РФ.

**27 чэрвеня** наступіў выбух у хуткім цягніку Масква – Пецярбург. Згінула 5 асоб, а 13 асоб было параненых.

## Іншыя дзяржавы

**1 студзеня** генеральным сакратаром ААН да 1 студзеня 2007 г. стаў Кофі Анан.

**2 студзеня** камп'ютэрныя хакеры заатакавалі паветраныя сілы ЗША. На інфармацыйных старонках вайсковай авіяцыі ўствілі парнаграфію і абразлівыя выказванні на тэму ўлады ЗША.

**7 студзеня** ў гандлёвым цэнтры ў Алжыры ад выбуху бомб згінула 13 асоб, а амаль 100 асоб было параненых.

**9 студзеня** ў Манро ў штаце Мічыган у ЗША на аэрадроме разбіўся самалёт Embraer EMB-120 R Brasilia. Згінула 29 асоб.

**12 студзеня** наступіў у ЗША 81–шы старт (STS-81) па праграме Спейс Шатл і 18 палёт шатла Атлантыс з касманаўтамі Майклам Бейкерам, Брэнтам Джэтам, Петэрам Уісофам, Джонам Грунсфельдам, Маршай Айвінсай, Джэрым Лінenджэрам. Атлантыс пяты раз прыстыкаваса да расійскай касмічнай станцыі „Мір", забраў з яе амерыканскага касманаўта Джона Блаху і пакінуў на станцыі „Мір" амерыканскага касманаўта Джэры Лінenджэра, які вярнуўся на Зямлю ў STS-84 21 мая 1997 г. Атлантыс у гэтым палёце прызямліўся 22 студзеня.

**15 студзеня** на сустрэчы прэм'ер-міністра Ізраіля Б. Нетаньяху і прэзідэнта палестынскай аўтаноміі Я. Арафата ў Эрэце парафіравалі згоду на частковы вывад ізраільскага войска з Хеўрона і з Заходняга берага Іардана.

**19 студзеня** пры нападзе ісламскіх фундаменталістаў у цэнтры Алжыра і на вёску на поўдзень ад Алжыра згінула 72 асобы.

**20 студзеня** Біл Клінтан стаў прэзідэнтам ЗША на наступныя 5 год.

**1 лютага** ў Тамбакумба ў Сенегале ў катастрофе самалёта згінулі 23 асобы.

**2 лютага** ля Кіангала ў Анголе ў катастрофе самалёта згінула 37 асоб.

**4 лютага** ў паўночна-ўсходнім Іране ад землятрусу згінулі 72 асобы.

